



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714




Летапіс царкоўных званоў → 9


http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 18 (3129) Год LXI Беласток, 1 мая 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**ЗОЯ МАЙСТРОВІЧ з Рудутаў Арлянскай гміны здаўна займаецца рукадзеллем, у тым ліку саломапляценнем, і піша вершы па-беларуску. Сабрала яна і запісала многа мясцовых песень, ведае мясцовыя легенды. Сустракаецца з вучнямі, каб перадаць ім свае веды, умеласці і перш за ўсё прывіць любоў да беларускага, з якім пражыла ўсё сваё жыццё. Музейная бібліятэкарка Анджаліна Масальская запрасіла Зою Майстровіч на аўтарскую сустрэчу і майстар-класы з вучнямі Комплексу школ № 3 у Гайнаўцы, якія 15 красавіка адбыліся ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы. Паколькі сустрэча праходзіла перад самым радасным хрысціянскім святам, спадарыня Зоя распавяла як у яе дзяцінстве святкавалі ў вёсцы Вялікдзень.**

# Як калісьці ВЯЛІКДЗЕНЬ святкавалі







Дзетак другога класа, якія прыйшлі з настаўніцай беларускай мовы Беатай Кендысь, прывітала спадарыня Анджаліна і адрэкамендавала Зою Майстровіч — народную паэтку і рукадзельніцу. Спадарыня Зоя вельмі сардэчна сустрэла дзетак, якія ўжо паўтара года вучацца беларускай літаратурнай мове. Размаўляла з імі на дыялекце і літаратурнай мове, чытала свае вершы. Дзеткі разумелі пачутае, ставілі пытанні і самі прабавалі гаварыць па-беларуску. Гутарка тычылася самага радаснага свята хрысціян — Уваскрэсення Гасподняга.

— Пасля Вялікага посту, які ў нас працягваецца зараз, адзначаецца Вялікдзень — вельмі радаснае свята. Я ў дзяцінстве жыла ў вёсцы Тапаркі, адкуль 9 кіламетраў у прыхадскую царкву ў Орлі. Дарослыя і дзеткі ноччу дабіраліся да храма, каб з малітвамі сустрэць Уваскрэсенне Гасподняе. Дамоў вярталіся раніцай і спажывалі святочнае снеданне, яйкі, мяса. Пасля посту ўсе святочныя стравы вельмі нам смакавалі. Хаця мы, дзеткі, былі моцна стомленымі, то не хацелі спаць. У першы і наступныя дні Вялікадня вельмі многа было радасці і смеху, калі мы гулялі. Хросныя і сваякі дарылі нам размаляваныя на розныя колеры яйкі, якія мы выкарыстоўвалі для гульняў. Хросныя давалі па чатыры яйкі, а сваякі па пары яек. За Вялікдзень можна было сабраць многа яек, якія мы раскладалі на падаконніках. У нас яйкі фарбавалі цыбульнікам і фарбамі для фарбавання ільну і воўны. Узоры на яйках атрымліваліся, калі накладалі на іх гумовыя петлі (гумкі-рэцэптуркі) перад фарбаваннем. У нас не было традыцыі рабіць больш дэталёвых ўзоры на яйках. Дарэнне яек падчас Вялікадня — вельмі важная традыцыя, якая зараз знікае. Цяпер у нас перанялі заходнюю моду дарыць дзеткам больш падарункаў на Каляды, а нават падчас поснай Куцці, чаго ў мінулым на нашых вёсках не было. Тады адзінымі падарункамі для дзетак ад хросных бацькоў былі яйкі падчас Вялікадня, — распавяла спадарыня Майстровіч. — Яйкі мы выкарыстоўвалі для гульні званай выбіткі, калі двое дзетак спраўджалі чыё яйка мацнейшае, ударыўшы адным яйкам у другое. Разбітыя яйкі мы елі. Таксама качалі яйкі з катка, які быў выкананы з дошчачак. Калі дзіцё, пусціўшы яйка з катка трапіла ў іншае яйка, што ляжала на зямлі, то выйгравала і магло забраць усе яйкі з зямлі. У велікодны перыяд было многа іншых дзіцячых гульняў. Мы слухалі, як вясковая моладзь да Праваднoй нядзелі спявала веснавыя песні — вяснушкі, седзячы на лавачках. Пасля Правадаў пачыналіся вяселлі. Тады ў вёсках было многа маладых асоб і вяселлі былі частай з'явай. Калі моладзь гуляла, дзеткі чакалі, калі іх пачастуюць. Зараз вёскі сумныя, мала ў іх дзетак. Унукі з гарадоў на Вялікдзень наведваюць бабуль і тады многа радасці і смеху. Аднак пасля абеду вяртаюцца ў гарады і тады дзядуля з бабуляй ізноў выходзяць перад хату на лавачку.

Зоя Майстровіч прачытала дзеткам свае вершы на беларускай літаратурнай мове, акрашаныя дыялектызмамі, якія робяць яе творы адметнымі і характэрнымі для Беласточчыны. Далічылася яна, што напісала ўжо 1093 вершы, якія ў асноўным захоўваюцца ў рукапісе. Можна сказаць, што спатканне з Зояй Майстровіч праходзіла на прынцыпах урока беларускай мовы: дзеткі слухалі аповеды і вершы. У вершах паэтка расказвае пра вясковае жыццё ў мінулым і цяпер, распавядае пра асабістыя здарэнні, апісвае прыроду ў розныя поры года. Падчас спаткання спадарыня Зоя прачытала вершы «Родная хата», «Маці», «Буслы» і іншыя. У час спаткання спадарыня Майстровіч заахвочвала дзетак вучыцца роднай мове і гаварыць па-свойму.

— Размаўляць на беларускай мове я навучылася ад маёй матулі, якая родам з Гродзеншчыны. Дома гаварыла яна толькі на чыстай беларускай мове. Пісаць на беларускай літаратурнай мове я навучылася ў Пачатковай школе ў Саках. Гэта было даўно і з часам я прызабыла навучанае. Пішучы вершы на беларускай літаратурнай мове, я ўспамінала беларускі правапіс і з часам рабіла штораз менш памылак. Я асабліва люблю пісаць пра навакольную прыроду ў розныя поры года, — заявіла Зоя Майстровіч.

— Вы вельмі падобныя на маю прабабулю, якая жыла ў Арэшкаве, — заявіла вучаніца Амэлія Лісоўская, гледзячы на Зою Майстровіч.

— Мы ўсе сівыя, у акулярах і таму падобныя адна на другую, — адказала паэтка.

— А мая бабуля Марыя таксама піша вершы па-беларуску. І па-польску піша. Апісвае працу на полі, Чыжы, іншае. Сабрала яна ўжо каля 70 вершаў. Раней жыла яна ў Чыжах, а зараз у Гайнаўцы, — заявіў Матэвуш Урыновіч.

Габрысь Місяюк, які любіць рысаваць і маляваць, сказаў, што яго дзядуля са Старога Корніна піша калядкі. Аказалася, што на Гайнаўшчыне жыве многа здольных бабуль і дзядуляў.

— Я ахвотна спатыкаюся з вучнямі. Ім цікавыя мае аповеды. Хочуць яны навучыцца рукадзеллю. У маладых людзей асаблівы падыход да жыцця, Яны адкрытыя на новае, а такім для іх з'яўляецца рукадзелле і нашы традыцыі. Я рада, што вучні сёння ўважліва выслухалі мае вершы і аповеды, — сказала Зоя Майстровіч.

Рукадзельніца і паэтка нарадзілася ў 1952 годзе ў Тапарках. У 1970 годзе выйшла замуж у суседнюю вёску Рудуты. Вершы піша з 2007 года, калі выйшла на пенсію і з'явілася ў яе больш вольнага часу. Разам з аўтарскай сустрэчай адбыліся майстар-класы па выкананні павука.

— Павука найчасцей выконвалі перад Раством Хрыстовым. Нам хацелася ўпрыгожыць хату таксама перад Вялікаднем. Таму побач бялення сцен, вешання абмытых ручнікоў і макатак, падвешвалі павука пад столь. Якраз перад Вялікаднем павука ўпрыгожвалі каляровай паперай і прымацоўвалі да яго ўпрыгожаныя выдзіманкі, — распавяла Зоя Майстровіч і запрапанавала дзеткам Комплексу школ № 3 у Гайнаўцы зрабіць дэталі да вялікага павука.

Загадзя майстрыха парэзала салому на кароткія кавалкі, прынесла ніткі, іголкі і нажніцы, патрэбныя для выкавання павука. Дэталі з саломы выконвалі дзеткі з дапамогай спадарынь Зоі, Анджаліны і Беаты.

— Нам тут вельмі падабаецца. Цікава рабіць павука з саломы, — заявілі Габрыся Ацкевіч і Агата Баравік, якая са сваімі прабабулямі прабуе размаўляць на дыялектнай мове.

Анджаліна Масальская ў рамках праекта «Кірыліцай пісанае» ладзіць у Гайнаўскім белмузеі спатканні з беларускімі пісьменнікамі, гісторыкамі і іншымі творцамі, якія ў сваёй працы карыстаюцца кірыліцай.

— У рамках праекта «Кірыліцай пісанае» з 2009 года адбылося каля 30 сустрэч. Я запрашаю гасцей, якія карыстаюцца кірыліцай. Асноўная частка сённяшняга аўтарскага спаткання тычылася паэзіі Зоі Майстровіч, напісанай кірыліцай, успамінаў пра святкаванне Вялікадня і гутаркі з вучнямі. Спадарыня Зоя — цёплая і таленавітая асоба. Сустрэча з ёю была цікавая, а майстар-класы па выкананні павука былі дадатковым атракцыёнам, — заявіла бібліятэкарка Анджаліна Масальская.

— Зоя Майстровіч патрапіць зацікавіць вучняў беларускім словам, фальклорам і традыцыямі, а таксама навучыць народнаму рукадзеллю.

— Нашы вучні могуць тут многаму навучыцца. Маюць магчымасць даведацца, як іх равеснікі ў мінулым святкавалі Вялікдзень на вёсцы. Чуюць тут, што веданне беларускай літаратурнай мовы і мясцовых гаворак патрэбнае. Сёння вучні спаткаліся з паэткай, якая вершы піша па-беларуску, і навучыла дзетак, як выконваць дэталі да павука. Такія сустрэчы заахвочваюць вывучаць родную мову, — сказала настаўніца Беата Кендысь, вучні якой былі захоплены тым, што пачулі, убачылі і чаму навучыліся ў белмузеі.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА





# Ваўчар

Беларусы ўжо забыліся, што некалі яны ездзілі ў Польшчу і многія іншыя краіны, якія сёння знаходзяцца ў шэнгенскай зоне, зусім без візы. Непатрэбныя яны былі ўвогуле, тыя візы. Яны проста не існавалі. Для наведвання заходняй суседкі трэба было мець усяго толькі свой пашпарт, самога сябе ў больш-менш нармальным стане і нейкі там ваўчар, значэння і сэнсу якога ніхто тады не разумеў і не ведае па сённяшні дзень. Але таму, што ён быў неверагодна танным і прадаваўся паўсюдна, людзі не лічылі неабходным ламаць сабе галаву над гэтым пытаннем. Проста прыходзілі на вакзал, куплялі ваўчар і сядалі ў цягнік у Польшчу. Калі раптам нехта забыўся купіць той славуты ваўчар, то польскі памежнік рабіў выгляд што страшна незадаволены з гэтага факту, прасіў, каб больш гэта не паўтаралася і дазваляў чалавеку ехаць далей у патрэбным яму кірунку і без таго ваўчара.

У самой жа Польшчы ў беларуса правяралі дакументы значна радзей, чым у роднай Беларусі. Ну толькі тады, калі беларус добра набраўшыся той гарэлкі, якую прывёз прадаць палякам, сам забываўся хто ён ёсць і дзе ён зараз знаходзіцца. У такім выпадку прыходзілася для ўпарадкавання геаграфічных прабелаў памяці глянуць хоць адным вокам на галоўны дакумент, які падказваў імя і прозвішча асобы і яе грамадзянства.

Тады наўрад ці хто мог прагназаваць, што ўсяго праз некалькі гадоў па візы будуць выстройвацца вялікія чэргі, людзям прыйдзецца здаваць адбіткі пальцаў, запаўняць анкеты, шукаць запрашэнні і абгрунтоўваць прычыну паездкі да сваіх суседзяў.

Але ўсё гэта здарылася. У Беларусі змянілася ўлада, якая абрала курс на інтэграцыю з Расіяй. Расія ж, дзе таксама змянілася ўлада, абрала таксама нейкі новы курс, логіку і сэнс якога па сённяшні дзень яшчэ ніхто не змог растлумачыць. Свет зноў раздзяліўся.

Замест таго ваўчара, значэнне якога так і не было высветленае, на Беларусі з'явіліся памежныя зоны ў раёнах заходняй мяжы. І іх значэнне таксама застаецца загадкай, бо займалі яны напачатку амаль што не чацвёртую частку краіны. І, прыкладам, мне, беларусу, каб патрапіць у сваю родную вёску, дзе прайшло маё дзяцінства, дзе жывуць мае родныя і дзе знаходзяцца магілы маіх продкаў, патрэбна было набываць адмысловы дакумент. Яго нельга было купіць як той ваўчар у кожным шапіку. Для яго набыцця неабходна было прайсці цэлую працэдуру, якая па складанасці і працягласці была больш цяжкай, чым сённяшняе атрыманне шэнгенскай візы.

Аднойчы мяне затрымалі за некалькі соцень метраў ад роднай хаты і пакаралі за тое, што я, перамяшчаючыся па тэрыторыі сваёй радзімы, завітаў у госці да мамы, бо паміж мной і мамай правялі нейкую рысу і паставілі на дарозе шыльду, дзе напісалі, што перайсці тую рысу можна толькі пры наяўнасці адпаведных дакументаў.

Я тады міліцыянтам расказваў пра польскіх памежнікаў, якія мяне нават у іншую краіну прапускалі без ваўчара. Тыя пацізкалі плячамі і з сумам распавядалі мне, што зусім нядаўна і яны, добра выпіўшы горкай, выпадкова патрапілі ў Літву ўвогуле без пашпартоў. Дык іх нават назад не прагналі. Сказалі толькі, каб больш так не рабілі. І яшчэ з вялікім жалем, выпісваючы пры гэтым мне штраф, шкадавалі, што тыя вольныя часы ўжо прайшлі.

Зусім нядаўна Еўрапейская камісія прапанавала Еўрапарламенту і Савету Еўрасаюза адмяніць візы для нашых сяброў па няшчасці і былых закладнікаў усё той жа інтэграцыі з Расіяй грамадзян Украіны. Ужо гэтым летам украінец зможа паехаць у Еўропу без візы. Проста так, як некалі і мы, узяць пашпарт і паехаць на захад, і ўжо па дарозе карэктаваць свой маршрут з сябрамі ці сям'ёй у залежнасці ад жадання.

Ну, а беларусы ў масе сваёй, стоячы ў чэргах перад замежнымі амбасадамі і здаючы адбіткі сваіх пальцаў для атрымання шэнгенскай візы, нарэшце перастануць гаварыць пра тое, што падзеі апошніх гадоў ва Украіне не прынеслі аніякай карысці ўкраінскаму народу.

Лепш будзе паўспамінаць пра даўно забыты ваўчар і паразважаць, ці быў які ў ім сэнс і навошта яго было купляць, калі і без яго беларуса з павагай пускалі праз мяжу.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Плаці за «нацыянальнае ТВ»



Аўдыёвізуальная плата, якую хоча ўвесці ПіС, гэта не столькі новая падпіска-абанемент, а хутчэй падатак — заплацяць усе, нават калі ў іх няма тэлевізара. У лепшым выпадку гэта будзе 180 злотых у год. Тым не менш, некаторыя заплацяць некалькі разоў больш. Часам прыйдзецца заплаціць за памерлых сваякоў. Тая яшчэ адна «добрая змена» прапанаваная ПіС наконт новай аўдыёвізуальнай платы выклікала шмат сумненняў. Колькі будуць спаганяць за аўдыёвізуальную плату? Згодна з законапраектам, складзе яна 15 злотых у месяц. Але ёсць меркаванне, што можа быць менш. Дэпутатка Альжбета Крук, якая падпісалася ў якасці аднаго з аўтараў праекта, ужо кажа, што плата будзе складаць толькі 12 злотых. Ці калі хто не глядзіць тэлевізар, ці яму ўсё роўна прыйдзецца плаціць?

Так, аўдыёвізуальная плата мае быць паўсюднай. Калі хтосьці мае дом і домік на ўчастку, заплаціць двойчы, таму што плата будзе лічыцца ад лічыльніка электраэнергіі, а не ад чалавека. Хоць тут, як і з колькасцю новага збору, магчымы змены. Калі хто мае два дамы ці дзве кватэры, таксама будзе плаціць за кожны з іх. Але калі ў каго дома ёсць адзін лічыльнік, а ў гаражы або ў склепе другі, не будзе плаціць двойчы — як адзначаецца ў законапраекце, калі другі лічыльнік знаходзіцца ў той жа кватэры, што і першы, або ў памяшканнях, якія да яе належаць, аплата спаганяцца будзе толькі адзін раз. Адкуль вядома, куды перавесці грошы? Уся практычная інфармацыя будзе прадстаўлена кліентам пастаўшчыком электраэнергіі — будзе ён для гэтага мець час да 10 студзеня кожнага года. А што будзе, калі не заплацім? Праект кажа ясна: аўдыёвізуальны ўзнос будзе разглядацца як падатак, так што калі ён не аплачаны, падатковыя органы могуць ініцыяваць працэдуру правапрымянення. Калі трэба заплаціць? Абавязак уплаты з'явіцца ў першы дзень кожнага месяца. На выплату будзе час да канца наступнага месяца. Можна будзе плаціць за больш працяглы перыяд загадзя. А калі спознімся з аплатай, ад 15 злотых будуць налічаны працэнты. Але падатковая служба будзе збіраць інфармацыю аб няўплаце і будзе мець магчымасць ініцыяваць працэдуру правапрымянення.

Ты атрымаў у спадчыну дом па бабулі, і рахунак па-ранейшаму ўключае ў сябе аўдыёвізуальную плату. Мусіш яе заплаціць. Згодназ праектам, канчатковым кліентам таксама з'яўляецца спадчыннік памерлага чалавека, які ўступіў быў у пагадненне з энергетычнай кампаніяй. Трэба плаціць да спынення дагавору або заключэння новага. Хіба што пагадненне, складзенае памерлым, прадбачвала яго спыненне пасля смерці атрымальніка.

Калі ты дагэтуль не плаціш абанементу, ці павінен заплаціць аўдыёвізуальную плату? Гэта залежыць шмат ад чаго. У абанементнай сістэме мусілі плаціць падпіску ўладальнікі тэлевізараў і радыёпрыёмнікаў. Было таксама нямала выключэнняў. Ад пачатку 2017 года плаціць маюць не толькі ўладальнікі прымачоў, але і тыя, хто не выкарыстоўвае іх. Але ёсць некаторыя выключэнні. Не будуць мусілі плаціць людзі, якія з-за складанай сітуацыі не ў стане рэгуляваць рахункі за электраэнергію і атрымліваць энергетычнай дадаткі. Будуць таксама вызвалены ад аплаты асобы, якім за 75 гадоў і людзі са значнымі абмежаваннямі (інваліды І групы), ветэраны і рэпрэсаваныя, якія карыстаюцца энергетычным дадаткам, апекуны няздольных да самастойнага жыцця, а таксама сем'і з нізкім узроўнем даходу, якія карыстаюцца дадаткам 500 злотых на першае дзіця.

Ці калі людзі старэйшыя за 75 гадоў не плацяць, ці можна перапісаць свой рахунак на бабулю і не плаціць? Гэта складана. Хоць у праекце сцвярджаецца, што асобы старэйшыя за 75 гадоў будуць вызвалены ад платы, там таксама адзначана, што такі чалавек павінен быць прапісаны пад нейкім адрасам. Прытым па гэтым адрасе павінны жыць адны пенсіянеры. Гэта будзе значыць таксама, што 75-гадовы чалавек не будзе плаціць толькі з тае кватэры, у якой жыве. А што, калі ў яго будзе больш за адну кватэру або хатка на ўчастку? Гэтага праект не вызначае... А што, калі я не хачу дзяржаўнага тэлебачання? "Нацыянальнага»? Ну, дык няхай яго зачыняюць, і будзе па праблеме. На маю думку, TVP з'яўляецца нядобрасумленнай канкурэнцыяй на рынку СМІ, таму што яны бяруць грошы-вымагальніцтва, якім з'яўляецца падпіска, але ад рэклам не адмаўляюцца і плацяць касмічныя грошы сваім «зоркам». Ну, цяпер яны ў іх «добра зменены».

**Міра ЛУКША**



## Вачыма еўрапейца

# Міжпарламенцкая група

У Сейме 13 красавіка была сфармавана польска-беларуская міжпарламенцкая група. У дзень напісання гэтага артыкула, яна складаецца з дзвццаці чатырох дэпутатаў. На чале яе сталі шэсць сустаршынь, у тым ліку двух падляшскіх дэпутатаў Адам Андрушкевіч з клуба Кукіз-15 (Усяпольская моладзь) і Мечыслаў Башко ад ПСЛ, былы падляшскі маршалак. Ядром групы з'яўляюцца прадстаўнікі клуба Кукіз-15 і людоўцы. У дзень заснавання было іх на два больш. Вельмі хутка, аднак, ад удзелу адмовіліся дэпутаты ад Грамадзянскай платформы Ірэнэуш Рась і Міхал Дворчык ад Права і справядлівасці. У дадатак да кукізоўцаў і людоўцаў засталіся там таксама прадстаўнікі (па адным) з ГП, ПіС і Сучаснай. Мае яна ў прынцыпе займацца супрацоўніцтвам з беларускім парламентам — непрызнаным Заходняй Еўропай, а таксама дасюль Польшчай. Гэта звязана з тым, што амаль чатыры гады таму беларускі парламент быў абраны не ў адпаведнасці з дэмакратычнымі прынцыпамі. Аб такой польска-беларускай групе беспаспяхова марыў у папярэднім Сейме падляшскі парламентары ад СЛД Яўген Чыквін, які, так як і яго групоўка, пацярпелі паразу на нядаўніх парламенцкіх выбарах. Паколькі тады не ўдалося яе стварыць, стаў ён на чале парламенцкай групы па супрацоўніцтве з Рэспублікай Беларусь, якая не мела ніякай падтрымкі, каб з беларускім парламентам фармальна, афіцыйна весці кантакты.

У Сейме папярэдняга і цяперашняга скліканняў дзейнічае ўжо група па справах Беларусі на чале з падляшскім дэпутатам ад ГП Робертам Тышкевічам, таксама намеснікам старшыні парламенцкай камісіі па замежных справах. Зараз, ад часу паўторнага прызначэння ў канцы студзеня, займаецца ён таксама падтрымліваннем кантактаў з беларускай апазіцыяй і спрыяе дэмакратычным зменам у Беларусі. У цяперашнім Сейме ў склад групы ўваходзяць сем членаў: трое з ПіС (Міхал Дворчык, Малгажата Гасеўская, Адам Ліпінскі), чатырох з ГП (апрача старшыні, Анджэй Галіцкі, Міхал Шчэрба, Міхал Ярос).

У новастворанай групе першую скрыпку спрабуе іграць дэпутат Андрушкевіч. У размове з «Кур'ерам паранным» ён сказаў: «Беларусь з'яўляецца нашым важным суседам. Трэба размаўляць з ім». Ён нагадаў, што ў апошні час у Мінску быў міністр замежных спраў Вітальд Вашчыкоўскі. Кіраўнік знешнедыпламатычнага ведамства размаўляў з афіцыйнымі ўладамі Беларусі (прэзідэнтам РБ і кіраўніком МЗС):

— Для ўрэгулявання ёсць шмат пытанняў, у тым ліку памежнага руху, становішча палякаў у Беларусі. Я гатовы размаўляць з цяперашнімі беларускімі ўладамі. Я не заўважыў, каб групе дэпутата Тышкевіча ўдалося аформіць штосьці канкрэтнае.

Група, якую ўзначальвае дэпутат Тышкевіч, праз некалькі дзён пасля сфармавання новай групы аднагалосна (ГП і ПіС!) звярнулася да маршалка Сейма з патрабаваннем адмяніць рашэнне аб яе стварэнні: «З 2005 года Сейм і Сенат прызнавалі, як і пераважная большасць краін ЕС, што афіцыйнае супрацоўніцтва з беларускім парламентам можа пачацца толькі пасля наступлення ў Беларусі істотнага прагрэсу па пытанні згоднасці выбараў з дэмакратычнымі стандартамі. Стварэнне групы сёння, за 5 месяцаў да парламенцкіх выбараў у Беларусі, намякае аб тым, што польскі Сейм адыходзіць ад гэтай умовы. Гэта азначала б памяншэнне ціску на беларускія ўлады для ўкаранення стандартаў АБСЕ і адмову ад падтрымкі патрабаванняў дэмакратычнай апазіцыі і адкрытага грамадства. Варта таксама нагадаць, што вельмі важнай прычынай адступлення Сейма і Сената ад стварэння Польска-беларускай групы Міжпарламенцкага саюза была дэлегалізацыя беларускімі ўладамі ў 2005 годзе Саюза палякаў у Беларусі і прысваенне яго актываў. У гэтай справе нічога не змянілася і па гэты дзень (...)».

На мой погляд, здзіўляе згода маршалка Сейма на заснаванне новай групы. Я дакладна не перакананы ў тым, што наступствы візіту міністра Вашчыкоўскага ў другой палове сакавіка ў Мінску дастатковы, каб выканаць такія жэсты, прымаць такія меры. Больш за тое, наступстваў візіту, па меншай меры, пакуль не відаць, а справа, сярод іншага, у нявырашаных пытаннях, згаданых у пазіцыі групы па Беларусі, але і звязаных са свабодай сродкаў масавай інфармацыі ў гэтай краіне, і ўсяго пакета, звязанага з выкананнем там правоў чалавека. Адказу наконт гэтай згоды ў дзень напісання гэтага артыкула я чакаў дарэмна дзявяць дзён.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**



# ТРЫВОГА МЕНШАСЦЕЙ

Злева: Яраслаў Малэцкі, Юзаф Ружанскі, Багдан Пашкоўскі, Войцех Пшыгонскі

Пераважная большасць прадстаўнікоў нацыянальных і этнічных меншасцей выказала сур'ёзную трывогу ў сувязі з арганізаванымі ў Беластоку і раней у Гайнаўцы маршамі крайне нацыяналістычнагаНацыянальна-радыкальнага лагеру (ОНР) і іншымі падзеямі, якія адбыліся ў апошні час у сталіцы Падляшша, і якія прычыняюцца да таго, што яны не могуць адчуваць сябе поўнасцю бяспечнымі. Такія апаскі былі сфармуляваны ў ходзе штогадовай сустрэчы прадстаўнікоў меншасцей з падляшскім ваяводам — у гэты раз першы раз з моманту прызначэння на гэтую пасаду Багдана Пашкоўскага (ПіС). У сустрэчы прынялі ўдзел прадстаўнікі Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі. Па-за ваяводам гэтым разам ад імя МУСіА не было адпаведнага намесніка міністра па справах меншасцей. 20 красавіка ў калонай зале Ваяводскай управы Падляшскага ваяводства МУСіА прадстаўлялі Юзаф Ружанскі, дырэктар дэпартамента рэлігійных веравызнанняў і нацыянальных і этнічных меншасцей і Яраслаў Малэцкі, саветнік міністра (займаецца беларускай і літоўскай меншасцямі). На сустрэчы прысутнічаў назначаны 11 лютага ўпаўнаважаны падляшскага ваяводы па нацыянальных і этнічных меншасцях Войцех Пшыгонскі, які пазбягаў быў кантактаў з меншасцямі і адмовіўся размаўляць з прэсай. У ходзе сустрэчы таксама маўчаў, нават не адрэкамендаваў сябе. Толькі падчас кароткага брыфінгу з журналістамі пасля сустрэчы, калі мы спыталіся, якія дзеянні пачаў пасля ўступлення на пасаду, шырока прадставіў сваю біяграфію (мы апісалі яе некалькі тыдняў таму), а затым сказаў:

— Я — сацыёлаг і праблема меншасцей для мяне не чужая. Я ведаю гэтую праблематыку, але не ад арганізацый меншасцей, якіх многа. Дасюль я сустракаўся з прадстаўнікамі розных устаноў: з куратаркай асветы, з прэс-службай камендатуры падляшскай паліцыі. Я пазнаёміўся з праблемамі, якія могуць датычыць меншасцей. У апошнія гады тут нічога трывожнага не адбывалася, у 2011-2013 гадах у нас было спакойна. Ёсць файная праграма «Беласток для талерантнасці», якая ажыццяўляецца ў школах, дзіцячых садках, ёсць пэўная грамадзянская актыўнасць. Пагрозы як такой (у адносінах да меншасцей — М. Х.) я не бачу. Я хачу такія сустрэчы, як з ваяводам, працягнуць у глыбіньі, там дзе жывуць меншасці (...). Сёння я ўслухоўваўся і каштоўнае для мяне тое, што сустрэча адбылася. Прыйдзе час, каб вырашаць пытанні, якія былі вынесены.

* * *

Як паведамлялася раней, сустрэча мела мець «характар прэзентацыі арганізацый меншасцей, абмеркавання праблем і заяўлення пытанняў, якія маглі б быць вырашаны ў будучыні». Але здамінавана была выказваннямі пра неспакой пасля нядаўніх трывожных падзей, кульмінацыяй якіх быў марш ОНР у Беластоку і суправаджаючая яго меса ў каталіцкай кафедры з нацыяналістычнымі выказваннямі ксяндза Яцка Мендляра (пасля ад свайго начальніка ордэна атрымаў забарону выступаць публічна), а таксама канцэрт аднаго з фашысцкіх гуртоў у клубе «Гвінт» Беластоцкай палітэхнікі на тэрыторыі кампуса гэтай вучэльні. Непасрэдна перад канцэртам рэктар палітэхнікі рэкамендаваў студэнтам-замежнікам у час знаходжання ОНР на плошчы студэнцкага гарадка не выходзіць з пакояў.

Выступленням прадстаўнікоў меншасцей па гэтай тэме, аднак, папярэднічалі кароткія прамовы ваяводы і дырэктара Ружанскага, які спаслаўся, між іншым, на вета прэзідэнта Анджэя Дуды — якраз пасля яго прысягі — на папраўку да Закона аб нацыянальных і этнічных меншасцях (мы пісалі пра гэта ў «Ніве» некалькі разоў):

— На дадзены момант яна трапіла на паліцу. Мы не выключаем, аднак, што праца над ёю будзе прадоўжана. Дэпутаты і эксперты павінны яшчэ над ёю схіліцца.

Дырэктар згадаў пытанне субсідый, якія даюцца Міністэрствам унутраных спраў і адміністрацыі арганізацыям меншасцей (падрабязна аб сёлетніх мы пісалі ў «Ніве»):

— Грошы для гэтай мэты застаюцца на тым жа ўзроўні, а колькасць заявак на атрыманне грантаў павялічваецца.

* * *

Адразу ж пасля выступленняў ваяводы і прадстаўнікоў міністэрства голас у вострым тоне ўзяў Ян Сычэўскі, старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства:

— Прыкра, што ў нашым ваяводстве што і раз паўтараюцца або пачынаюцца новыя факты, якія кампраметуюць яго з пункту гледжання адносін паміж некаторымі экстрэмальнымі, нацыяналістычнымі, шавіністычнымі арганізацыямі і меншасцямі. Гэта мае вельмі негатыўнае значэнне. Для беларускай меншасці з пункту гледжання дэмакратычнай прававвой дзяржавы гэта падзеі, якія кампраметуюць. З пункту функцыянавання беларускай меншасці — вельмі небяспечныя.

Старшыня БГКТ спаслаўся на марш ОНР у Гайнаўцы пад лозунгам «Буры наш герой»:

— Гэта мае вельмі сур'ёзны ўплыў на стан духу нашай меншасці, на яе пэўныя паводзіны. Існуе небяспека вяртання да ганебных нацыяналістычных традыцый і непасрэдна небяспекі для псіхічнага, маральнага стану прадстаўнікоў нашай меншасці (...). Усе гэтыя факты бясспрэчна ўплываюць на прагрэсіўную асіміляцыю беларускай меншасці, асабліва ў гарадах.

Старшыня Падляшскага аддзела Таварыства польскіх татараў Артур Канапацкі (гісторык):

— Цяжка гэтых падзей не асацыяваць з 30-мі гадамі XX стагоддзя і растучай тады хваляй нянавісці, якая зыходзіла ад ідэі карычневай сілы, якая, на жаль, у Беластоку набірае моцы. Ці ёсць нейкі спосаб, каб прадухіліць гэта? (...) Гэта ўпісваецца ў неразуменне гэтых людзей, якія скандуюць і крычаць супраць меншасцей, якія тут жывуць (...). Мая прапанова, каб паспрабаваць адукаваць гэтых людзей, таму што ў адваротным выпадку немагчыма прамовіць да іх (...). За кароткі час можа гэта прывесці да такой сітуацыі, што будзе абвешчана, каб меншасці не выходзілі з дому, таму што ў горадзе небяспечна. Давайце не допусцім такой сітуацыі, каб было небяспечна. Мусім падумаць, як працідзейнічаць.

Станіслаў Станкевіч, прадстаўнік абшчыны ромаў:

— Павінен быць сігнал ад адміністрацыі, што рабіць з гэтай сітуацыяй.

Прадстаўнік габрэйскай абшчыны на Падляшшы і кіраўнік Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча-Ізраіль Люцына (Люсі) Лісоўская:

— Важна, што ксёндз Дэмбскі (прэссакратар Каталіцкай мітрапаліцкай курыі пасля месы ОНР у кафедры — М. Х.) папрасіў прабачэння. Здарылася тое, што здарылася. ОНР гэта куча ідыётаў, ён павінен быць забаронены. Я не ведаю, хто гэтым маршам павінен заняцца. Ад гэтага паліцыя. Улады не аказваюць ніякага ўплыву на банду ідыётаў.

* * *

Ваявода Пашкоўскі (па адукацыі юрыст) і падчас сустрэчы з меншасцямі, і падчас брыфінгу з журналістамі падкрэсліў, што падчас названых прадстаўнікамі меншасцей падзей, якія выклікаюць у іх трывогу, не быў парушаны правапарадак, так што паліцыя не мусіла ўмешвацца. Журналістам сказаў:

— Мы, дзяржаўная ўлада, паліцыйныя і праваахоўныя службы, манітаруем сітуацыю, але мы павінны таксама прымаць пад увагу той факт, што там, дзе няма ніякага парушэння законаў у кантэксце свабоды сходаў, прамое ўмяшанне не пажаданае і непатрэбнае. Па гэтым пытанні пэўна мы будзем размаўляць, таму што гэта ёсць акцэнтаванне пэўнай адчувальнасці ў сувязі з гэтым прадстаўнікоў нацыянальных ці этнічных меншасцей (...). Там, дзе парушаюцца законы, будуць прыняты адпаведныя меры.

На пытанне «Нівы» ці на яго думку ў ходзе беластоцкага маршу ОНР выкарыстоўвалася мова нянавісці і бачны былі праявы ксенафобіі, ён сказаў:

— У мяне справаздачы па гэтым пытанні яшчэ не ўкаранёны. Я не хацеў бы пра гэта неяк канчаткова выказвацца.

— А лозунг ОНР пра сіяністаў, якія будуць вісець на дрэвах замест лісця, паводле вашаму гэта распальванне нянавісці, ці не? — пыталіся мы.

— Яны могуць быць аднесены да такіх катэгорый, але я не ведаю, у якіх абставінах яны гучалі і былі акцэнтаваны. Я б не стаў удавацца ў падрабязнасці.

— Ці ў вас ёсць відэазапіс з маршу ОНР у Беластоку?

— Не бачыў. Я ведаю толькі інфармацыю з прэсы.

* * *

Падчас сустрэчы выносіліся таксама іншыя праблемы. Прафесар Алег Латышонак, старшыня Беларускага гістарычнага таварыства, звярнуўся па дапамогу ў атрыманні ўрэшце памяшкання пад бібліятэку яго арганізацыі. Кнігазбор налічвае дзесяць тысяч тамоў:

— Гарадскія ўлады Беластока гадамі не могуць дапамагчы нам вырашыць гэтую праблему.

Былы дэпутат, галоўны рэдактар штомесячніка „Przegląd Prawosławny" Яўген Чыквін разлічвае на дапамогу ваяводы ў сістэмных рашэннях, якія дапамаглі б спыніць працэс дэпапуляцыі беларускай меншасці і пазазаконным („таму што не было і няма ніякай палітычнай волі ў парламенце") рэгуляванні пытання аб кампенсацыі сем'ям беларускіх, праваслаўных ахвяр атрадаў „Бурага" са студзеня і лютага 1946 года.

У сваю чаргу праф. Ян Чыквін, старшыня Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" інфармаваў ваяводу аб асаблівасці і ўнікальнасці ў сусветным маштабе беларускай літаратуры Беласточчыны.

Пятро Юшчук, сакратар Культурнай асацыяцыі „Русь" звярнуўся па дапамогу ў падрыхтоўцы спісаў ахвяр бежанства і месца іх пахавання, а таксама забітых на ўсіх франтах апошняй вайны ўраджэнцаў Беласточчыны, чые магілы знаходзяцца на Усходзе (згадваў аб Расіі).

Ян Сычэўскі заявіў:

— Выратаваннем для культуры меншасцей з'яўляецца тое, што размеркаванне міністэрскіх грантаў не адбываецца шляхам адкрытага тэндэру.

На яго думку, гэтак павінна быць і з дафінансаваннем Маршалкоўскай управай Падляшскага ваяводства і Гарадской управай Беластока (ваявода не можа непасрэдна ўплываць на іх). Як ужо некалькі разоў падчас іншых сустрэч з чыноўнікамі, ён прывёў праблему адсутнасці субсідый на фестывалі польскай меншасці ў Беларусі і беларускай у Польшчы «Беласток-Гродна» і шматнацыянальны «Музычныя дыялогі на Бугам».

Гэта адбываецца, — як ён назваў, — з-за таго, што міністэрства адстойвае этнічную чысціню мерапрыемстваў ім фінансаваных. Мы не можам закрывацца выключна ў коле сваёй уласнай нацыянальнай культуры, без міжкультурнага дыялогу.

Спасылаючыся на гэтыя і іншыя ўзнятыя пытанні, ваявода адказаў:

— Спакойна прааналізуем усё і выкажам пазіцыю. Мы павінны працягваць рэгулярна нашы сустрэчы, па меншай меры адзін раз у год, а калі гэта неабходна — часцей.

Адзначыў, звяртаючыся да праблем меншасцей наконт нядаўніх падзей і спасылаючыся на аргументы, аб якіх таксама згадаў у ходзе брыфінгу:

— Я прызнаю, што вашы галасы выказаныя, напрыклад, у адносінах да шэсця ОНР цяпер у Беластоку, а раней у Гайнаўцы, далі мне падумаць хаця б пра вашу адчувальнасць. Мабыць, я ўспрымаю гэта крыху па-іншаму (...). Справа ў тым, каб прымаць пад увагу стан вашай адчувальнасці і зрабіць такія крокі, якія ў нашым заканадаўстве цяпер магчымыя.

Па гэтым матыве дырэктар Ружанскі адказваў прадстаўнікам меншасцей:

— Ёсць людзі, якія пісалі, пішуць і будуць пісаць на аўтобусных прыпынках, сценах (гаворка пра нацыяналістычныя, расісцкія, дыскрымінацыйныя, ксенафобскія і г.д. надпісы — М. Х.), але гэта не абазначае, што так думае пераважная большасць.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

## Бярозавае свята

Сільварый — пушча ў пілюлі, бабровая кладка, экуменічна-гістарычна-прыродазнаўчы шлях — гэта толькі некаторыя з атракцыёнаў, якія прыцягваюць турыстаў з Польшчы і замежжа. Новы турыстычны сезон у Надлясніцтве Крынкі афіцыйна адкрыўся ў нядзелю 17 красавіка. Багаты цыкл штогодніх мерапрыемстваў ужо ад трох гадоў пачынаецца „Святам бярозы".

*Чаму менавіта бяроза?*
*У асінавым карытцы*
*Сок бярозавы іскрыцца.*
*Сок іскрыцца — серабрыцца,*
*Як жа мне не наталіцца?*
(Алесь Пісьмянкоў, „Лясная сталоўка")

Вельмі папулярны па абодвух баках мяжы (па нашым цяпер крыху менш) бярозавы сок змяшчае ў сабе да 2% цукраў, 0,1-0,2% арганічнай кіслаты, мінеральныя солі і таксама невялікія колькасці вітамінаў. Сезон збору соку, у залежнасці ад надвор'я, пачынаецца ў сакавіку і працягваецца нават да пачатку мая. Спосаб збору вельмі просты: здымаем з пня верхні слой кары, робім дзірку глыбінёй 3 см, у якую прыладжваем карытца. Я асабіста з дзяцінства помню свайго дзядзьку, які збіраў бярозавік у шкляныя бутэлькі (іншых, здаецца, тады не было), вешаючы іх на бярозавыя галіны. Нашым прадзедам складана было ўявіць жыццё не толькі без бярозавага соку, але таксама без дзёгцю. Гэтую асаблівую смалу рабілі ў дзягцярнях, размешчаных у бярозавых пералесках. Дзёгаць мае бактэрыцыдныя і дэзынфекцыйныя ўласцівасці. Мачылі ў ім палатно, каб пазбыцца вошай, шмаравалі колы і заканапачвалі бочкі. Бярозавым вугалем, між іншым, бялілі палатно, мыліся, а таксама ўгнойвалі зямлю.


„Заранка" пасля выступлення на „Сваце бярозы"

Гаворачы пра бярозавыя карысці, нельга забыць і пра эфірнае масла, рэсурсам якога з'яўляюцца, між іншым, бярозавыя кара і пупышкі.

Бярозавы сок быў толькі адным са шматлікіх атракцыёнаў, падрыхтаваных з нагоды „Свята бярозы". Ахвотныя маглі прыняць удзел у лясной гульні, нордык-уокінгу з гідам, прагулках на брычцы і верхавой яздзе, паказах разьбярства, мастацкіх, дзіцячых занятках, спаборніцтвах вудзільшчыкаў і ў шмат чым яшчэ. Выдатнае надвор'е паўплывала на надзвычай вялікую колькасць удзельнікаў свята. Такога натоўпу народу мясцовыя даўно ўжо не бачылі. З канцэртамі прыехалі таксама два калектывы з Крынак: жанчыны з поп-гурта „Экзіт" і дзіцячая "Заранка". У выкананні дзяцей можна было пачуць гуканне вясны ды беларускія песні і танцы, запісаныя ў гмінах Крынкі і Шудзялава. Спецыяльна да лясных умоў падрыхтавалі яны песню Зміцера Вайцюшкевіча пра галоднага ваўка.

**Іаанна ЧАБАН**



# Сцэнічнае саперніцтва ліцэяў

**Пятнаццаць выканаўцаў, якія прадставілі па адным фрагменце прозы і вершы, прынялі ўдзел у сёлетнім трыццаць сёмым конкурсе «Сцэнічнае слова». Моладзь з Бельска-Падляшскага і Гайнаўкі ў рамках конкурсу прадставіла таксама па дзве сцэнкі — малыя тэатральныя формы. У дэкламатарскай частцы значна пераважалі вучні з Бельскага белліцэя. У сядзібе Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства бельская моладзь паказала свае здольнасці ў большасці на роўным высокім узроўні. Не адступала ад іх ні на крок чацвёрка ліцэістак з Гайнаўскага белліцэя.**

Моладзь паміж выступамі ў размове з «Нівай» не трымала ў сакрэце, што ў падрыхтоўцы да спаборніцтваў і ў выбары рэпертуару абавязана яна сваім настаўнікам. І гэты выбар, гледзячы на імёны аўтараў выкарыстаных у конкурсе твораў, быў надзвычай разнастайны, пачынаючы ад Максіма Танка, Якуба Коласа, Уладзіміра Караткевіча да Міхася Хмялеўскага, Сакрата Яновіча ці Віктара Сазонава.

Ян Карчэўскі, які падрыхтаваў тры дэкламаткі (чацвёртая працавала пад кіраўніцтвам Анны Каліноўскай) з Гайнаўскага белліцэя, пад наглядам якога была падрыхтавана сцэнка «Кірмаш» паводле твора «Несцерка» Віталя Вольскага ліцэйскай тэатральнай групай «Драма», як раз перад выступленнем сказаў «Ніве»:

— Мела выступіць яшчэ наша вучаніца Магдалена Гаўрылюк з манадрамай, але, на жаль, не паспела падрыхтавацца. Па-першае, трэба заахвочваць маладых людзей да такіх сцэнічных выступленняў, распрацаваць добры, цікавы тэкст, каб ахвотна вывучылі яго. Тыя з маладых людзей, якія вырашылі выступіць, хочуць развіваць свае таленты, але і навучыцца публічна выступаць, што сёння вельмі важнае і пачынаецца на выпускным экзамене. Некаторыя з маіх вучняў ужо прымалі ўдзел у дэкламатарскіх конкурсах, трохі спяваюць на сцэне, але большасць проста хоча развіваць свае таленты і ўдасканальваць сваю беларускую мову.

Адзначыў таксама:

— На ўроках не заўсёды можна звярнуць увагу на правільны націск і вымаўленне. А ў час пазаўрочнай працы можна спакойна папрацаваць над хібамі. Падрыхтоўваючы моладзь да дэкламацыі, улічваю ўсе крытэрыі, якія пры ацэнцы павінна прымаць да ўвагі журы: падборку тэксту, інтэрпрэтацыю, культуру слова і агульны мастацкі выраз. І хоць мы цяпер маем шырокі доступ да інтэрнэту, трэба крыху часу прысвяціць, каб выбраць адпаведны тэкст. І мы, настаўнікі, шукаем іх, і вучні шукаюць. Многія тэксты, якія выбірае моладзь для дэкламацыі, аўтарства пісьменнікаў згуртаваных у Беларускім літаратурным аб'яднанні «Белавежа», напрыклад, Міхася Шаховіча, Надзеі Артымовіч або Алеся Барскага.

Анна Бжазоўская, настаўніца Бельскага белліцэя, якая дапамагла ў падрыхтоўцы чатырох маладых чалавек і працавала з моладдзю над сцэнкай «Запрашаем на вячоркі»:

— Наша тэатральная група гэта вучні другога класа ліцэя, а дэкламатары вучацца ў першым і другім класах, і адзін з іх у трэцім. Ліцэісты вельмі зацікаўлены ва ўдзеле ў конкурсах і алімпіядах. З мінулага года ў нашай школе працуе танцавальная група, якая займаецца беларускімі танцамі. Узнагародай для вучняў за ўдзел з'яўляюцца, між іншым, экскурсіі ў Беларусь. Мы толькі што вярнуліся з Брэста, дзе супрацоўнічаем з гімназіяй № 3. У школе ў нас ёсць шмат беларускай літаратуры, сучаснай, у тым ліку «белавежцаў». Сама таксама ўжо гадамі прывожу кнігі, колькі магу, з Беларусі. Таму ёсць з чаго выбіраць на такія спаборніцтвы, як дэкламатарскі конкурс.

Яўгенія Таранта, настаўніца, апякунка сямі дэкламатараў з Бельскага белліцэя:

— Сёлета да конкурсу вельмі ахвотна заявіліся вучні, перш за ўсё з першых класаў. Мабыць таму, што ў падобных спаборніцтвах удзельнічалі яны ў гімназіі. Вельмі добра дэкламуюць, правільна вымаўляюць словы па-беларуску. Мне не трэба было іх адмыслова заахвочваць да ўдзелу ў «Сцэнічным слове». Прапанова ўдзелу выйшла ад іх. З нашага ліцэя прыехала б сюды яшчэ больш маладых людзей, але два вучні захварэлі. Перш за ўсё мы працавалі над правільнай акцэнтуацыяй. Дэкламатарскі конкурс для маладых людзей вельмі патрэбны. Не толькі таму, каб маглі паказацца перад іншымі, скажам, перад гайнаўскімі аднагодкамі, але і самім сабе даказаць, што змогуць сутыкнуцца на сцэне са словам у цэлым, і асабліва з беларускім словам, і тым самым даказаць, што і яны нешта значаць на гэтай планеце. Нават для слабейшых дэкламатараў конкурс дае штуршок для далейшай працы, вучобы, для далейшага развіцця сябе.


Магдалена Маліш

Адзін з двух выступаючых дэкламатараў-хлопцаў Лукаш Філіманюк з Бельскага белліцэя:

— Я падрыхтаваў «Вобраз маці дарагі» Уладзіміра Паўлава і «Украла мужа» Міхася Хмялеўскага. Я прыехаў у Беласток на конкурс упершыню. Ужо ў пачатковай школе я рыхтаваўся да ўдзелу ў конкурсе «Роднае слова» і ўжо тады палюбіў паэзію і дэкламацыю. Чатыры гады таму на раённым конкурсе ў Гайнаўцы я заняў трэцяе месца. Зараз, калі пані Бжазоўская спыталася, ці хачу прыняць удзел у «Сцэнічным слове», я адразу рашыўся, і пані Бжазоўская дапамагла мне знайсці творы для дэкламацыі.

Другі хлопец — таксама ўжо вопытны дэкламатар Рыгор Зінкевіч, вучань першага класа Бельскага белліцэя (догляд Яўгеніі Таранты), апрача фрагмента прозы падрыхтаваў верш «Часта думаю» апошняга народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча. Чаму якраз гэты верш? — спыталіся мы ў маладога дэкламатара:

— Пані Таранта выбрала для мяне некалькі вершаў, і я вырашыў, што буду дэкламаваць. Верш Гілевіча крануў мяне сваім патрыятызмам, што кажа аб сіле і прыгажосці беларускай мовы, нагадвае, каб яе не забывалі і перадаць наступным пакаленням. Верш мне падыходзіў, ён добры для дэкламацыі. Раней я не чуў пра Ніла Гілевіча. Калі я чытаў аб ім у працэсе падрыхтоўкі верша, мая мама сказала мне, што якраз ён памёр.

Наталля Тамчук з Бельскага белліцэя (апека Анны Бжазоўскай) сама адшукала творы, якія дэкламавала са сцэны: фрагмент апавядання «Васількі» Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага) і верш «Беларуская мова» Людмілы Шчэрбы:

— Гэтыя творы я палічыла цікавымі, асабліва верш, які расказвае пра нашу беларускую мову.

Яе школьная сяброўка Магдалена Магрук, якой дапамагла ў падрыхтоўцы Анна Бжазоўская, таксама вырашыла дэкламаваць верш пра беларускую мову — «Роднае слова» Дануты Бічэль-Загнетавай:

— Зацікавіў ён мяне, таму што кажа пра беларускую спадчыну.

Абедзве былі згодныя:

— Кожны год мы жадаем прыняць удзел у дэкламатарскіх спаборніцтвах. Гэта, здаецца, ужо такая традыцыя ў нашай школе.

У сваю чаргу, Аляксандра Лажэцкая з Бельскага белліцэя (апека: Яўгенія Таранта) не хавала:

— Мне вельмі падабаецца беларуская мова. Вывучаю яе дзясяты год. Не толькі дэкламую на беларускай мове, але і спяваю. Гэта маё хобі. У будучыні я думаю вывучаць медыцыну, але я б хацела таксама неяк актыўна дзейнічаць, каб мець магчымасць выкарыстоўваць родную мову, хоць яшчэ і не ведаю як.

Патрыцыя Ігнацюк, якая ўдзельнічала ў падрыхтаванай ліцэістамі пастаноўцы «Запрашаем на вячоркі»:

— Мы падрыхтавалі ў тэатралізаванай форме звычай, які да гэтага часу часам падтрымліваецца на беларускіх вёсках, але часцей яго можна ўбачыць толькі ў тэатральнай версіі. Мы хочам нагадаць яго іншым маладым людзям, таму што ён быў вельмі вясёлы. Удзел у гэтай сцэнцы даў мне магчымасць асабістага адчування, як людзі калісьці святкавалі.

Абедзве сцэнкі — бельская і гайнаўская — былі добра ацэненыя журы. Гран-пры сёлетняга «Сцэнічнага слова» журы з трох асоб прысудзіла Магдалене Маліш з Бельскага белліцэя. Першае месца дасталася Дар'і Маліш з Бельска белліцэя і Магдалене Гаўрылюк з Гайнаўскага белліцэя. Другое — Марце і Рыгору Зінкевічам з Бельскага белліцэя, а трэцяе Наталлі Васько (Гайнаўскі белліцэй) і Аляксандры Лажэцкай і Магдалене Магрук. Узнагароджаны таксама былі чатыры асобы за ролі ў пастаноўках: Наталля Васько і Дар'юш Васілюк з Гайнаўскага белліцэя ды Агата Мазурук і Ева Казлоўская з Бельскага белліцэя.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Беларуская этнафілалогія — чарговы выклік

## Размова з праф. Галінай Твірановіч — загадчыцай кафедры беларускай філалогіі Універсітэта ў Беластоку.

**„Ніва": — З пачаткам новага акадэмічнага навучальнага года ва Універсітэце ў Беластоку павінна рушыць новая спецыяльнасць — беларуская этнафілалогія. Відавочна, гэта альтэрнатыва для беларускай філалогіі, якая, што парадаксальна само па сабе, была зачынена менавіта ў горадзе, дзе пражывае найбольш беларусаў, якую цягам 20 гадоў яе існавання закончыла шмат асоб, што сёння актыўна працуюць на беларускай ніве.**

**Праф. Галіна Твірановіч**: — Так, закрыццё накірунку беларуская філалогія ў Беластоку — сапраўдны абсурд. Калегі з польскіх, беларускіх вышэйшых навучальных устаноў неаднойчы выказвалі здзіўленне, як такое магло стацца на беларуска-польскім памежжы, ва ўніверсітэце, арыентаваным на ўсходняе супрацоўніцтва, не гаворачы ўжо пра багатыя даўнія традыцыі тутэйшага беларускага жыцця. Узгадваецца, як хораша адзначана было дваццацігоддзе беларускай філалогіі ў Беластоку. Колькі віншавальных адрасоў было атрымана намі! Як расчуліла ўсіх прысутных выступленне хору дзетак са школы свсв. Кірылы і Мяфодзія — уласна патэнцыяльных нашых студэнтаў, любімая настаўніца якіх Іаанна Якубовіч-Марко таксама ж выпускніца беластоцкай беларускай філалогіі... Ну, але сталася так, што пару гадоў мы не маглі набраць вызначаную рэктарам колькасць студэнтаў і накірунак выгас. У чым прычына таго? Напэўна ж, агульная бяда — драматычны дэмаграфічны ніж, які б'е па многіх накірунках і многім факультэтам не хапае студэнтаў. А патрабаваць ад беларускай філалогіі, каб да нас прыйшло ў групу трыццаць студэнтаў, як было пастаўлена пытанне, гэта і нерэалістычна, і негуманна, а хіба, мабыць, несвядома, але і варожа. Таму што беларуская філалогія ў Беластоку, вядома ж, мусіла быць своеасаблівым прыярытэтам, існаваць і развівацца няхай сабе і з абмежаваным колам студэнтаў. Між іншым, навуковы, выкладчыцкі кантынгент кафедры беларускай філалогіі сфарміраваны ўжо ў асноўным якраз з выпускнікоў той жа беластоцкай філалогіі. І сапраўды, як Вы справядліва заўважылі, шмат выпускнікоў беларускай філалогіі менавіта Універсітэта ў Беластоку асаджана ў тутэйшую беластоцкую глебу, плённа працуе ў беларускіх асветніцкіх, прэсавых, культурных асяродках. Сапраўды, рашэнне ўніверсітэцкіх улад адносна закрыцця беларускай філалогіі, якая з'яўлялася своеасаблівай візітоўкай навучальнай установы, было недальнабачным і несправядлівым нават у плане прэстыжу ўніверсітэта.

**— Кашубская этнафілалогія мела падобныя праблемы, калі таксама не ўдавалася набраць патрэбнай колькасці студэнтаў, але ім удалося атрымаць грошы на падтрымку гэтага ж накірунку з колькасцю 13 чалавек. Можа і ў нас магчымы такі варыянт пры большым заангажаванні ў справу?**

— Мы таксама стукаліся ў розныя дзверы, стараючыся выратаваць філалогію, аднак не ўдалося. У выпадку ж з беларускай этнафілалогіяй атрымалі пацвярджэнне, што нам будуць садзейнічаць у тым жа Міністэрстве адміністрацыі і лічбавізацыі. І рэктар нашага ўніверсітэта таксама адгукнуўся пісьмовай згодай падтрымаць нас, што ўласна дапамагала нам на цярністым шляху да зацвярджэння гэтай спецыяльнасці. Хачу нагадаць, што ідэя стварэння спецыяльнасці беларуская этнафілалогія нарадзілася падчас выпрацоўкі стратэгіі развіцця беларускага школьніцтва. Універсітэцкія ўлады пайшлі насустрач гэтай ініцыятыве і вось тут мы нарэшце сустрэліся з паразуменнем. Відавочна, тое, што гэтая спецыяльнасць напрыканцы лістапада мінулага года была зацверджана сенатам Універсітэта ў Беластоку, з'яўляецца перамогай усяго беларускага асяроддзя.



**— Прэс-сакратар Універсітэта ў Беластоку інфармуе, што праграма новага накірунку была кансультавана са шматлікімі меншаснымі арганізацыямі і ўстановамі і, напрыклад, такімі як радыё, школы ці тэлебачанне. А дакладней, з кім праводзіліся кансультацыі?**

— Сама ідэя ўзнікнення беларускай этнафілалогіі нарадзілася ў асяроддзі вельмі працаздольнай арганізацыі АБ-БА. І тут мы асабліва ўдзячны Барбары Пякарскай. На пасяджэннях жа па абмеркаванні стратэгіі развіцця беларускага школьніцтва прысутнічалі прадстаўнікі ўсіх арганізацый: як прафесар Алег Латышонак, як рэдактар „Нівы" Яўген Вапа, як прадстаўнікі з бельскага і гайнаўскага ліцэяў... Так што наша праграма ў плане агульных падыходаў і асноўных прадметаў вынікае з найвейшых патрабаванняў развіцця беларускай меншасці ў Польшчы і можна з поўным правам сказаць, што знайшла агульнае адабрэнне. Вядома, ёсць непасрэдныя дыдактычныя патрабаванні: сетка прадметаў, гадзін, што на ўзроўні ўніверсітэта можа вырашацца толькі вузкімі спецыялістамі.

**— Разумею, што беларуская этнафілалогія з'яўляецца цікавейшай альтэрнатывай, чым беларуская філалогія? Як выглядае гэтая адукацыйная прапанова? Што можа заахвоціць выпускнікоў ліцэяў паступіць на гэтую спецыяльнасць?**

— Сама назва беларуская этнафілалогія сведчыць пра тое, што комплекс філалагічных прадметаў сур'ёзна ўзбагачаны на прадметы этнічнага, этналагічнага шэрагу. Прадугледжана паглыбленае вывучэнне культуры Беларусі і Падляшша, гісторыі Беларусі і Падляшша, а таксама, напрыклад, рэлігіязнаўства — як вядома, наш рэгіён вельмі складаны ў плане веравызнаўчых пытанняў. Зразумела, як на кожным гуманітарным накірунку, будзе вывучацца замежная мова, камп'ютарная тэхніка, без якой немагчыма цяпер абысціся. Беларуская этнафілалогія, прапануе маладому чалавеку спектр прадметаў, ведаў значна шырэйшы і адначасова больш канкрэтны, маецца на ўвазе спецыфіка Беласточчыны.

**— Ці можна спадзявацца цяпер на цяснейшае супрацоўніцтва паміж Кафедрай беларускай філалогіі і Кафедрай беларускай культуры?**

Адкрыццё новай спецыяльнасці было б немагчымым без самага актыўнага ўдзелу супрацоўнікаў Кафедры беларускай культуры. Прафесар, доктар габілітаваны Ірына Матус уласна тым, што бліскуча абараніла сваю дысертацыю па рэлігіязнаўстве, адкрыла нам магчымасці для стварэння беларускай этнафілалогіі. Вядома, што для адкрыцця новай спецыяльнасці ва ўніверсітэце патрабуецца поўная колькасць навукоўцаў вышэйшага рангу. Ірына Матус з'яўляецца таксама выдатным этнографам, гісторыкам. Таксама заняткі будзе праводзіць доктар Гражына Харытанюк — вядомы даследчык творчасці Адама Міцкевіча, выдатны этнограф, бібліятэказнаўца.

**— Ці думаеце, што ўдасца набраць адпаведную колькасць студэнтаў, якая дазволіць, каб новая спецыяльнасць пачала існаваць у нашым Універсітэце?**

— Гэта пытанне на „засыпку". Пэўна, калі б не было надзеі, мы не пачыналі б справы. А сіл укладзена вельмі шмат. Застаецца спадзявацца цяпер на свядомасць нашых маладых людзей, якія адчуваюць сябе гаспадарамі на роднай зямлі, мусяць адчуваць, якім неабыякавая яе будучыня. Яны павінны ўсведамляць, што пройдзе яшчэ дзясятак, ці крыху болей, гадоў і менавіта яны мусяць прыйсці на змену тым, хто цяпер вызначае жыццёвую беларускую разнастайнасць, тым, хто з'яўляецца носьбітам спрадвечных каштоўнасцей, на якіх трымаецца чалавечы свет.

**— Дзякую за размову.**

**Гутарыла Уршуля ШУБЗДА**

# БЕЛАРУСКАЯ ЭТНАФІЛАЛОГІЯ

## новая спецыяльнасць на філалагічным факультэце Універсітэта ў Беластоку



# Упрыгожвалі вярбовыя галінкі і малявалі яйкі

21 красавіка гэтага года ў прыгожай святліцы ў Ахрымах Нараўчанскай гміны жанчыны ўпершыню сабраліся, каб навучыцца прыгожа памаляваць яйкі. Прыйшлі дзяўчаты і маладыя замужнія жанчыны з дзяцьмі з Ахрымоў, Падляўкова і Капітаншчыны.



Марыя Рэент вучыла маляваць велікодныя яйкі, а Крыстына Паскробка — упрыгожваць вербачкі (абедзве інструктаркі са Старога Ляўкова). Зацікаўленне было вялікае. Дзеці вельмі ахвотна малявалі яйкі. Яны выконвалі прыгожыя ўзоры пры дапамозе растопленага воску. Дзяўчаты рабілі прыгожыя кветкі і прывязвалі іх да зялёных вярбовых галінак пры дапамозе каляровых стужачак.



Варта дадаць, што неабходныя матэрыялы для выкнання кветак, а таксама гарбата, кава і шакаладныя цукеркі былі куплены ў падарунку для ўдзельнікаў заняткаў маладым солтысам Ахрымоў Паўлам Несцеруком.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Напярэдадні Вялікадня

Гарадскі асяродак культуры, спорту і адпачынку ў Кляшчэлях, супольна з сялецкімі радамі прыступіў да рэалізацыі праекта «Вяртаем традыцыю пячэння буславай лапы». Затым у вясковых святліцах напярэдадні Вялікадня адбыліся майстар-класы, прысвечаныя гэтаму абраду. І так, 3 красавіка ў Залешанах жанчыны з дзеткамі рыхтавалі цеста і выпякалі «буславу лапу». 15 красавіка ў Палічнай удзельнікі майстар-класа ўбіралі велікодныя пальмы і аздаблялі пісанкі-крашанкі. 16 красавіка ў святліцы ў Дабрывадзе праходзілі польска-беларускія майстар-класы, прысвечаныя дэкаратыўнаму мастацтву веснавога перыяду. 22 красавіка ў мясцовай святліцы ў Дашах удзельнікі майстар-класа займаліся ўбіраннем велікодных пальмаў і маляваннем яек. Завяршальная імпрэза адбылася 23 красавіка ў кляшчэлеўскай «Гладышцы». Жыхаркі мястэчка з дзеткамі і членамі гуртка Саюза пенсіянераў рыхтавалі на Вербніцу ўпрыгожаныя пальмы і размалёўвалі пісанкі-крашанкі. За падрыхтоўку і ход арганізаваных мерапрыемстваў адказнымі былі працаўнікі Гарадскога асяродка культуры, спорту і адпачынку Яўгенія Казімерук, Эвеліна Кендысь і Таіса Барысюк. **(ус)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі

# Велікодныя падарожжы

Да нядаўна Вялікдзень явіўся выключна сямейным святам. Самым важным у сямейна-абрадавым сэнсе лічылі велікодны сняданак. За сталом збіралася ўся сям'я. На ім ставілі асвечаную ежу: яйкі, соль, масла, каўбасы, куньпы, бачок, хрэн, сыр, пірагі, хлеб.

Звычайна ўсе стравы рыхтавалі хатнім спосабам, напярэдадні свята. Старажылы падказвалі, каб у першы дзень не паліць у печы. Верылі, што такім чынам адгоняць ад двара пажар.

Сёння ніхто не ўяўляе святкавання без гарачых страў.

Усё больш людзей едзе «святкаваць» за мяжу, у экзатычнае падарожжа.



Міхалоўскія аўтары

Але не толькі! Адваротная з'ява тычыцца найперш беларусаў. Для многіх з нас галоўная задача ў час велікодных святкаванняў — аддаць паклон продкам. Якраз у велікодны перыяд людзі прыходзяць на могільнік асвяціць магілы родных.

Як не дзіўна, сёння на могільніках можам сустрэць людзей з цэлага свету. Адны прыязджаюць з другога канца краіны, іншыя — з бліжэйшага і далейшага замежжа: з Нямеччыны, Мадрыда ці Нью-Йорка. Наш вясковы, прызабыты могільнік напамінае Вавілонскую вежу. Між магілкамі чуюцца англійская, французская ці нямецкая мовы... У такі момант думаем пра незвычайную сувязь беларусаў са светам продкаў. Яны, хоць жывуць далёка, адчуваюць патрэбу вяртання.



Стары могільнік гэта яшчэ запаведнік рэдкіх відаў раслін і насякомых. Тут можам сустрэць зялёную руту, вечназялёную дзеразу, дзікія лілеі, рэдкія віды матылькоў і насякомых. Праўда, зараз пры моры штучных кветак не кожны прыкмеціць жывога матылька.

А трэба! Паводле беларускай міфалогіі, у вобразе матылькоў прылятаюць да нас душы памерлых продкаў.

**ЗОРКА**

**Фота Ганны Кандрацюк**

*Міра ЛУКША*

## Шаўкоўніца

*З цёплых краёў*
*да нас прыбыло*
*тутавае дрэва — шаўкоўніца,*
*што дабром шчырые напоўніцу.*
*Радзіма яе Кітай, Індыя, Японія,*
*Любіць цяпло і святло,*
*карыснымі рэчывамі напоўнены*
*і карэнне, і плады, і лісты.*
*Лячэбная ад пят да галавы,*
*А найбольш у дыябеце паможа.*
*Чорная і белая,*
*смачная і прыгожая,*
*кватэра шаўкапрадаў шыкоўная,*
*якіх у каконах люляе.*
*У каласападобных*
*суквеццях кветкі,*
*а чырвоныя, фіялетавыя, белыя*
*плады такія смачныя ўлетку.*
*Пасаджу сабе на палетку*
*морву-шаўкоўніцу белую,*
*буду цешыцца кветкамі,*
*салодкім пладом пачастую.*

## Рыгор Барадулін

* * *

**Прыходзіла Вялічка на сяло**
**З чырвоным яйкам, з белатварым сырам,**
**І сцежку, паднядзеленую жвірам,**
**Світанне лугам за руку вяло.**
**Іграла сонца, ажывала тло,**
**Свянцонка пахла злагадаю, змірам.**

**І ўсім малечым вачаняткам шчырым**
**Прысмакаў досыць на стале было.**
**Расло святло, надзея ўваскрасала.**
**З душы ўцякалі недавер і змрок.**
**І песняў валачобнікам хапала.**
**І сніўся падарожжу сон далёкі.**
**І адвячорак позніўся знарок.**
**Ішлі па небе продкі, як аблокі.**

## Загадкі з роднай хаткі

**УВАГА КОНКУРС! № 18-16**

Адзін лье,
другі п'е,
трэці расце.
(д...., з...., т....)

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 8 мая 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 14: зайка. Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйгралі: Наталля Стакоўская з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Эва Анджэйчык з Нарвы, Марлена Лабаноўская з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Хроніка, якая штурхае да новага!

Хоць у апошнія гады з’явілася мода на запісы і архіваванне ўспамінаў, няпроста моладзь намовіць да такой працы. У характары дарастаючага гімназіста ёсць адна думка: мроіць пра будучае. Таму школьная хроніка ў рэдакцыі саміх гімназістаў — проста рарытэт.

Некалькі дзён назад наведала нас беластоцкая група моладзі з Гімназіі № 7 з настаўніцай Альжбетай Рудкоўскай. Ад двух гадоў па іх ініцыятыве на старонках „Зоркі” з’явілася шмат артыкулаў пра іх школу. Некаторыя ідэі, як міжгімназічны конкурс па стральбе, набылі вялікае прызнанне ў асяроддзі і сапраўднае захапленне гімназістаў! Сёння гімназісты таксама не прыйшлі з пустымі рукамі. Яны прынеслі сваю хроніку, якую з 2007 рэдагуюць (вядома, на беларускай мове) самі гімназісты. На старонках адлюстраваны не толькі ўсе падзеі і дасягненні, тут відавочны настрой, стыль, а нават мастацкія спробы пры характарыстыцы паасобных сяброў. Нам прыемна адзначыць, што значную частку інфармацыі складаюць ніўскія публікацыі.

У гэтым месцы трэба паўтарыць: хроніка беластоцкіх гімназістаў гэта не сухі рэестр падзей. Наадварот, гэта крыніца, якая натхняе да далейшай дзейнасці. Яна жывая і дасціпная, падказвае як спалучыць навуку і гульню. Пад уплывам прэзентацыі мы падумалі, каб наладзіць конкурс на самую цікавую школьную хроніку.

Што пра гэта думаеце?

**(гак)**

## Вершы Віктара Шведа

### У Велікодныя святы

У Велікодныя святы
Селянін п’яніваты
Падумаў адмыслова
— Пагавару з каровай.

Пачуў: — Прыйдзі акурат
Напярэдадні каляд.
Тады ва ўсіх сёлах
Загавораць жывёлы.

### Варыла яйкі Майка

Матуля просіць Майку:
— Звары, дачуся, яйкі.
Каб не былі закруты
Вары іх тры мінуты.

Было ёй не пад сілу:
Дзевяць мінут варыла.
Сказала маме Майка:
— Варыліся ж тры яйкі!

**Наталля ГОСЦІК**
Саколе, ПШ у Міхалове

### *****

За хмарамі гуляюць анёлы,
Яны толькі чакаюць,
На свет пагладаюць.
Яны толькі чакаюць,
калі ім можна
У наш свет увайсці.

### Жыццё

Жыццё не чакае,
Яно бяжыць.
Мы можам гнацца,
Або спакойна жыць.
Ты, чалавеча, падумай,
Бо жыццё бяжыць.

### Хвіліна

Калі змрок,
Калі цёмна,
Калі ты адзін,
Падумай хвіліну,
Падумай гадзіну
Пра прыгожую сэрцам
дзяўчыну.
Можа ты ўспомніш мяне...

## Польска-беларуская крыжаванка № 18-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 14:**

Голуб, арол, ла, Мюнхен, сена, ара, куранятка, шпак, на, не, ткач, Ас, атрад, лектар, той, марш. Гук, кшталт, суп, мерка, акт, банк, сто, банан, ай, янтар, але, такт, ранак, арка, ранча, ліпа, душ.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Зузанна Кардзюкевіч**, **Шымон Івановіч**, **Аляксандра Раманюк** з НШ свсв. КіМ у Беластоку, **Вікторыя Гаць**, **Іаанна Нікіцюк** з Бельска-Падляшскага, **Аляксандра Буслоўская**, **Дам’ян Іванюк**, **Караліна Трусевіч** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Сара Скаўронская** з ПШ № 4 у Беластоку. Віншуем!

Mak
Więzienie
Sioło
Sarna
Opowieść
Temat
Raj
Rodzina
Rak
Miotła
Burza
Marek
Optyka
Jał
Upał
Wiosna
Era
Jak
Chór
Chatka
Jajko
Zespół
Mięta
Gardło
Azja
Ty
Ar
Amor
Tutaj
Bursztyn
Turbina

# Ваенны летапіс царкоўных званоў Беларусі (1)

**Вывучэнне званоў доўгі час было немагчымае па прычыне грамадска-палітычных умоў, якія наклалі „вета” на духоўную тэматыку і сам царкоўны звон. У канцы 1980-х гг. разам са зменай дзяржаўнай ідэалогіі паступова былі зняты грыфы „цалкам сакрэтна” з архіўных дакументаў, што дазволіла выявіць „белыя плямы” ў музычнай гісторыі Беларусі і ў яе нацыянальнай гукавой сімволіцы.**



■ Званар храма св. Архангела Гаўрыіла з в. Рубель Пашкевіч Сцяпан Аляксандравіч, 1935 г.н.

Дзяржаўная прыналежнасць заходняй часткі сучаснай Беларусі да Польшчы ў 1921-1939 гг. стала асноўным чыннікам найбольшай захаванасці званоў і традыцыі звону ў даным рэгіёне ў параўнанні з сумежнымі ўсходнімі абласцямі, якія ўвайшлі ў склад Савецкага Саюза. Падзеі, якія тычацца гісторыі званоў у 1941-1945 гг. адноўлены намі ў выніку экспедыцый у 2003-2009 гг. па 247 праваслаўных храмах Гродзенскай, Брэсцкай, часткова Віцебскай і Мінскай абласцей, а таксама вывучэння архіўных матэрыялаў. Спроба вывучэння лёсаў беларускіх званоў у гэты перыяд зроблена намі ўпершыню.

Нямецка-савецкая вайна з'явілася перашкодай у распачатым у 1939 г. знішчэнні Праваслаўнай царквы ў заходняй частцы Беларусі, якая ўваходзіла ў склад Польшчы з 1921 г. Ва ўсходняй частцы — на тэрыторыі БССР, дзе да 1939 г. не было пастаянна дзеючых храмаў — садзейнічала яе адраджэнню. Акупанты выкарыстали рэлігійны чыннік у мэтах прыцягнення насельніцтва захопленых тэрыторый на свой бок. У перыяд 1941-1944 гг. у Беларусі былі адкрыты 6 епархій, было адноўлена 120 прыходаў, з першых дзён вайны многія храмы аднавілі багаслужбы. Для лёсаў царкоўных інструментаў паказная лаяльнасць захопнікаў аказалася падманлівай. Званы прадстаўлялі цікавасць не як помнікі матэрыяльнай культуры беларускага народа, а як сыравіна для вытворчасці зброі. З канца 1941 г. на акупаваных тэрыторыях праводзілася акцыя „дабравольнай дапамогі” для нямецкай арміі, па ўсёй тэрыторыі Беларусі арганізаваны былі пункты збору званоў. Збору падлягалі медзь, цынк, нікель, волава і сплавы гэтых металаў. Акцыя праводзілася пры дапамозе ўсіх мясцовых і нямецкіх улад. Напрыклад, акружны камісар у Навагрудку пісаў, што раённыя бургамістры атрымалі заданне арганізаваць зборныя пункты ў Навагрудку, Дзятлаве, Любчы, Карэлічах, Івянцы і Наваельні, і што акцыя будзе праведзена 29 сакавіка 1942 г. „у форме дабравольных ахвяраванняў”. У пачатку 1942 г. у акупаваных гарадах Беларусі адбыліся сходы духавенства з нямецкімі ўладамі, на якіх быў дадзены загад здаць дабравольна званы, пакідаючы адзін невялікі.

Акупантамі даецца таксама загад, у адпаведнасці з якім „за ўтойванне каляровых металаў вінаватыя падлягаюць публічнаму пакаранню праз павешанне, а тыя, што здалі найбольшую колькасць медных рэчаў атрымаюць адмысловыя даведкі пра актыўны ўдзел у барацьбе супраць бальшавізму”. Паўсюдна распаўсюджваюцца ўлёткі за подпісам генеральнага камісара Беларусі Вільгельма Кубэ: „Беларусы! Гэтымі днямі будзе праводзіцца, як спецыяльная кампанія, збіранне металаў, вынікі якога павінны прычыніцца да давядзення да канца вайны, да спакою і вызвалення вашага краю... Дайце, што вы маеце! Вы атрымаеце пасведчанне, што вы часткова прычыніліся да перамогі і забяспечанай будучыні Вашага краю”. Па сведчанні мітрафорнага протаіерэя Георгія Сапуна, „свяшчэннікі Навагрудка Гродзенскай вобласці аб'явілі, што немцы абяцаюць пакінуць званы, калі будзе здадзена адпаведная вазе звона колькасць медзі (чайнікі, тазы, самавары і інш.). Прыхаджане неслі нажытае і здавалі з надзеяй, што так яно будзе. Але немцы падманулі, забралі сабранае, а потым здымалі званы. Дзесьці ў 1942 г., калі я вучыўся ў настаўніцкай семінарыі і здымаў кватэру ў доме па вул. Паштовай насупраць Барысаглебскай царквы, бачыў як яны скідалі звон у царкве ў Навагрудку. Прыехала машына высокіх нямецкіх чыноўнікаў і рабочых. Званы віселі на званіцы царквы высока на некаторай адлегласці ад вокнаў, былі вялікія метра 1,5 вышынёй. Прывезлі доўгія бярвёны, паклалі іх да самага верху на званіцы, адвязалі звону язык, адмацавалі мацаванні, паставілі на бярвёны і праз акенца яго кінулі. Калі звон упаў, ён не разбіўся, але напалову ўвайшоў у зямлю. Цяжка было глядзець. Мне падалося, што зямля здрыганулася, а разам і маё сэрца”.

У штотыднёвіку „Minsker Zeitung” („Мінская газета”) ад 30 мая 1942 г. у артыкуле „Рэйхскамісар дзякуе” Кубэ выказаў удзячнасць насельніцтву за „гатоўнасць да ахвяравання, якое цесна звязана з барацьбой супраць бальшавізму (...). У Мінску (...) на 4-х месяцах збору ўжо ў пачатку мая здадзена звыш 100 тон (металу — А. Ш.), калі ўлічыць той факт, што не засталося не пашкоджаных дамоў, і жыхары вядуць бездапаможнае жыццё (...) тут жыве жаданне супрацоўнічаць у еўрапейскім змаганні за свабоду (...). Беларускія абшчыны даставалі царкоўныя званы, якія яны больш чым 20 гадоў таму схавалі ад бальшавікоў”. У гэтыя месяцы званы некаторых храмаў, якія былі схаваны і перажылі Першую сусветную вайну, зноў выдаваліся ахопленымі страхам прадажнікамі-паліцаямі з ліку мясцовых жыхароў. Лёсы іх пазней склаліся трагічна.

Аграбленне цэркваў заходніх рэгіёнаў прайшло маланкава (ва ўсходніх зрабіў гэта „Саюз бязбожнікаў” у 1930-я гады). Заваёўнікі пакідалі ў храмах толькі самы маленькі звон, які мог бы заклікаць на службу. Магчыма, што „ўдзячнасць” Вільгельма Кубэ агучвалася некалькі разоў. 25 чэрвеня 1942 г. ён ужо як генерал-камісар звяртаўся: „Мужчыны і жанчыны Беларусі! Сваім учынкам вы ўнеслі свой уклад у барацьбу супраць бальшавізму і міжнароднага яўрэйства. Гэтым самым вы выказалі частку вашай удзячнасці за тое, што смелыя салдаты нямецкіх узброеных сіл у гераічных баях вызвалілі вас ад крывавага панавання бальшавізму (...).У будучыні давайце будзем сумесна нароўні з аднаўленымі працамі ў Беларусі весці бязлітасную барацьбу супраць злачынных ордаў Сталіна, якія, прыкрываючыся дзейнасцю партызан, вядуць сваю цёмную дзейнасць і знішчаюць вас”.

Невядомы карэспандэнт у той жа газеце ад 3 чэрвеня 1942 г. у артыкуле „Беларускі Мітрапаліт агітуе” інфармаваў, што „мітрапаліт Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы заклікаў святароў і старастаў цэркваў усе лішнія (...) званы, якія не выкарыстоўваюцца ў службе, здаць разам з каляровымі металамі”. 25 чэрвеня 1942 г. там жа паведамлялася: „Пра тое, як насельніцтва самаахвярна ўзялося за ўдалае правядзенне акцыі, доказвае той факт, што ў адной адзінай вобласці добраахвотна дастаўлена 64 царкоўныя званы. Разам са святарамі мы шукалі званы, якія пойдуць на пераплаўку”.

Нямецка-фашысцкія захопнікі асабліва «пастараліся» ў Глыбоцкім благачынні. 13 красавіка 1942 г. абласны камісар г. Глыбокае Віцебскай вобласці пісаў генеральнаму камісару Беларусі: «Каб стварыць аснову для супрацоўніцтва ў зборы металу з боку Праваслаўнай царквы, я гутарыў з благачынным г. Глыбокае (які — А. Ш.), паабяцаў прыкласці ўсе намаганні ў карысць гэтай справы. Нават здача царкоўных званоў не ўразіла яго. Ён папрасіў мяне толькі пачакаць да таго часу, пакуль не прыйдзе адабрэнне епіскапа Панцеляймона з Мінска, хаця здача каляровых металаў не залежыць ад гэтага. Хачу Вас папрасіць, каб вы заахвоцілі па месцы службы епіскапа, каб ён як мага хутчэй звярнуўся да ўсіх цэркваў аб здачы металу. (...) Я перакананы, што ў г. Глыбокім пасля прыбыцця пацвярджэння з боку епіскапа Панцеляймона ўсё будзе зроблена найлепшым чынам без якіх-небудзь палітычных цяжкасцей”.

18 красавіка 1942 г. прыйшоў адказ наступнага зместу: „Я даў указанне намеснику хворага ў даны момант епіскапа Пацеляймона, епіскапу Нарко выступіць з заклікам па зборы металу як мага хутчэй. Адначасна курыі Мітрапаліта дадзена ўказанне падтрымаць збор металу любым чынам”.

24 чэрвеня 1942 г. генеральнаму камісару Беларусі Кубэ дакладвалі: „Збор металу ў акрузе Глыбокае можна лічыць урачыста завершаным. Усяго тут сабрана 7 920 кг медзі, 34 875 кг латуні, 520 кг свінцу, 259 кг волава, 378,40 кг манет, 12 356,80 кг званоў і 830,45 кг іншых металаў. Добраахвотную дапамогу царквы можна ацаніць толькі на выдатна. Нягледзячы на тое, што цэрквам званы неабходныя для службы, яны добраахвотна аддалі ўсё. Асобным вялікім цэрквам будуць дадзены ў распараджэнне для царкоўнай службы малыя званы вагою да 15 кг (...). Некаторыя святары Праваслаўнай царквы адмаўляліся аддаваць свае званы пры зборы металу. Сярод іх можна назваць святара з Лужкоў (раён Глыбокае) Васіля Бекарэвіча”.

Вылучэнне для храма аднаго звана не з'яўлялася актам дабрыні нямецкіх акупантаў; яны ставіліся да гэтага як да аднаго са сродкаў трывожнай сігналізацыі. Ёсць прыклады, калі званы званілі для абвесткі аб пачатку каменданцкай гадзіны (напрыклад, у в. Гарадзькі Валожынскага раёна Мінскай вобласці), пра збор на бясплатную працоўную павіннасць гітлераўцы званілі ў царкоўныя званы ў канцлагерах. У в. Повіць Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці „вялікі звон разбілі немцы, калі няспынна званілі — гналі на працу рыць акопы”, — пра гэта распавёў званар Міхаіл Фёдаравіч Канцэвіч.

У той жа час, верагодна, нямецкаму камандаванню падабаўся пераван. Як расплумачыць, што ў гарадах Маларыта Брэсцкай вобласці, Вілейка Мінскай вобласці, дзе стаяла нямецкае камандаванне, „немцы не перашкаджалі службе, званілі званы як і раней, а на Вялікдзень прыходзілі паліцыянты, палілі вогнішчы і стралялі як салют у неба”.

29 снежня 1942 г. газета „Нью-Йорк таймс” агучыла планы нямецкага камандавання: „Збор каляровых металаў у акупаваных абласцях СССР з'яўляецца састаўной часткай нямецкага плана, у адпаведнасці з якім мяркуецца атрымаць у 1943 г. ва ўсіх акупаваных краінах Еўропы 200 тысяч тон меднага лому”.

Не выключана, што дзеля выратавання царкоўнай маёмасці духавенства спрабавала весці перамовы з акупантамі. Як лічыць благачынны г. Слоніма протаіерэй Уладзімір Бобчык, „у шэрагу цэркваў Гродзенскай вобласці не былі зняты званы, працягвалася служба і ў гэтым была заслуга святароў, якія былі дыпламаванымі людзьмі, ведалі некалькі моў, у тым ліку і нямецкую”. Трэба таксама дадаць, што адукаванымі былі і званары. Па словах патомнага званара Рыгора Іванавіча Дарковіча: „Бацька гаварыў, што немцы хацелі зняць нашы званы ў гады вайны, калі адступалі ў 1944 годзе. Сабраліся прыхаджане, ужо званы знялі, але (...) бацька, ведаючы гутарковую нямецкую мову, ён у бежанства працаваў у немцаў і там навучыўся, (...) звярнуўся да афіцэра з просьбай, што царква пабудавана на сродкі прыхаджан, і партызан у вёсцы ў нас не было. Афіцэр паслухаў і адказаў: „За тое, што ты добра размаўляеш па-нямецку, мы пакінем вам званы. Зараз мы пойдзем у бок Страдзіч, а вы званы схавайце, заўтра-паслязаўтра фронт пройдзе”. Бацька пераказаў гэта ўсё прыхаджанам, але яны адразу не паверылі, кажучы: „Заўтра прыйдзе і расстраляе”. Але бацька пацвердзіў, што немец слова трымае. Вечарам вырашылі закапаць усе тры званы каля царкоўнай агароджы”.

**(заканчэнне будзе)**

**Тэкст і фота Алены ШАЦЬКО**

**Алена Шацько** — кандыдат мастацтвазнаўства, сапраўдны член Асацыяцыі званавага мастацтва Расіі (Мінск), лаўрэат Міжнароднага конкурсу па звону, выкладчык кафедры беларускай музыкі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, аўтарка кнігі „Колокольный звон Белой Руси: тысячелетие традиции” (Мінск 2015).

*Калі Вы ведаеце прыклады выратавання званоў вашымі дзядулямі і бабулямі, аўтарка, якая хацела б пачаць вывучэнне і Беласточчыны, будзе рада вашым матэрыялам (электронны адрас: shatko377@gmail.com).*

# Рыгораўцы

## Размова з Яўгенам СЕМЕНЮКОМ, ураджэнцам Рыгораўцаў, зараз жыхаром Беластока, даследчыкам сямейнай мінуўшчыны.

Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

**— Сямейная гісторыя гэта частка агульнай мясцовай гісторыі. Зацікаўленне сямейным мінулым, гэта і зацікаўленне сямейным гняздом, роднай мясцовасцю і яе наваколлем. Каля Рыгораўцаў пракладвалі ў 1860-х гадах Брэсцка-Граеўскую чыгунку. Ці Вам вядома, як тая пракладка адбывалася?**

— Чыгунку клалі з канца 1869 года да паловы 1874 года, калі яна была здадзена ў карыстанне. Звыш двухсоткіламетровая лінія была пабудавана ў тры з паловай гады, з поўнай інфраструктурай. Яшчэ з дзяцінства помню, што на кожным пераездзе, дзе лінію перасякалі дарогі, стаялі старажоўкі. У Рыгораўцах была вялікая станцыя, каля якой быў пабудаваны цэлы пасёлак для чыгуначнікаў. Была вага, быў вакзал, як у Бельску, Кляшчэлях ці Падбеллі; цяпер такіх ужо няма. Сама вёска Рыгораўцы тады памянялася, паявілася ў ёй многа новых людзей.

**— А як выглядаў той вакзальны будынак: ці ён быў драўляны, як у Кляшчэлях, ці іншы?**

— Быў мураваны, як у Леўках. Цяпер то няма па ім нават фундаменту, а яшчэ ў час майго дзяцінства той фундамент быў. Калі параўнаць яго з тым драўляным баракам, які яшчэ стаяў на станцыі ў Рыгораўцах некалькі гадоў таму, то той першы вакзал, мураваны, быў у паўтара раза большы. Рыгораўцы былі важнай станцыяй, бо ў наваколлі былі толькі прыпынкі; тут было некалькі ветак і вага.

**— А той пасёлак чыгуначнікаў, пра які Вы згадвалі, вялікі быў?**

— Як прыгадваю з дзяцінства, было там пяць мураванак для пятнаццаці сем'яў. Здаецца, што дзве з іх яшчэ захаваліся.

**— А ці людзі расказвалі можа, як тую станцыю будавалі?**

— Людзі, калі нешта расказвалі з мінулага, то пра сваіх бацькоў і дзядоў, а іншыя падзеі не згадваліся. Але я яшчэ хачу расказаць пра той барак. У пачатку нямецка-савецкай вайны 1941 года немцы скінулі на станцыю бомбу і мураваны вакзал быў знішчаны. Пасля, на восені таго ж года — як расказвалі людзі — цераз Рыгораўцы ехаў на ўсходні фронт эшалон. Ад яго адчапілі адзін вагон, высела з яго бадай пяць рабочых і ў два дні паставілі станцыю. А нядаўна, калі яе разбіралі, аказалася, што гэта гістарычны будынак. Як я знайшоў у дакументах, была гэта зборная канструкцыя, якой праект нямецкія будаўнікі апрацавалі перад вайною, у 1937 ці 1938 годзе. Яна была спраектавана паводле спецыяльнай тэхналогіі для казарменнага будаўніцтва; паводле яе будаваліся таксама баракі ў канцлагерах, напрыклад, у Асвенціме. Як той вакзальны будынак разбіралі, то аказалася, што ўсе яго элементы былі скручаны і на ўсіх іх былі нумары з пячаткамі.

Яшчэ адна цікавінка звязаная з нашай станцыяй. На рыгораўскіх могілках знаходзіцца бадай найстарэйшы помнік, на якім захаваўся надпіс „младенец Карекин". Людзі расказвалі, што гэта быў сын першага начальніка станцыі з 1870-х гадоў.

Як расказвалі старажылы, то з пабудовай чыгункі многае ў вёсцы памянялася. У Рыгораўцах з'явілася шмат чыгуначнікаў. Амаль з кожнай сям'і нехта працаваў на чыгунцы — у Беласток ездзілі, у Чаромсе працавалі. У Рыгораўцах пасяліліся некалькі сем'яў звонку; былі гэта людзі, якія прыехалі працаваць на чыгунцы, некаторыя з іх тут пажаніліся. Жылі яны ў вёсцы, але зямлі не мелі.

**— А што Вы ведаеце пра бежанства жыхароў Рыгораўцаў? Паводле Вас, яно прычыніла меншыя дэмаграфічныя страты чым г.зв. рэпатрыяцыя пасля Другой сусветнай вайны...**

— З сямейных расказаў, якія мне ўдалося пачуць, ведаю, што не ўсе паехалі ў бежанства, нейкая частка асталася. А тыя, што паехалі, заехалі недалёка, у раён Барановіч. І хутка яны вярнуліся, ужо ў 1918 і 1919 гадах. Аднак успаміны людзей спрошчаныя. Напрыклад, з сямейных расказаў вынікала, што ў майго прадзеда было шасцёра дзяцей — усе ведалі іх імёны. Але калі я стаў пераглядаць старыя метрыкі, то аказалася, што ў яго было дзевяць дзяцей. Адна яго дачка памерла, а памяць пра двое іншых дзяцей у сям'і не захавалася. І я амаль поўнасцю ўпэўнены, што я знайшоў брата майго дзеда ў Ніжнім Ноўгарадзе. Згаджаюцца гады, імёны, паходжанне з Гродзенскай губерні. А чаму я мяркую, што рэпатрыяцыя была большаю стратаю чым бежанства? Бо ў канцы XIX стагоддзя, як паўставалі школы, то было вядома, колькі людзей жыло ў Рыгораўцах — было тады 280-300 чалавек. І ў міжваенны перыяд было таксама каля трохсот чалавек. Такім чынам вёска захавала сваю дэмаграфію. Калі ж глянуць на рэпатрыяцыю 1946 года, то ў самім спіску выехаўшых знаходзіцца каля шасцідзесяці чалавек. А калі з такое вёскі выбывае амаль чацвёртая частка яе насельніцтва, гэта вялікая дэмаграфічная страта.

**— А ці з Вашай вёскі былі такія бежанцы, якія завандравалі некуды далей?**

— З бежанствам такі клопат, што няма дакладных пераказаў. Калі я быў малы і бабуля, якая была ў бежанстве, расказвала тыя гісторыі, то тады яны мяне не цікавілі, я іх не слухаў. Але ведаю, што мае сямейнікі, якія былі з іншых вёсак, былі далей. Мая бабуля, якая родам з Тапчыкал, была ў Казахстане і ў Растове-на-Доне.


Фота з асабістага фонду Яўгена СЕМЕНЮКА

**— На захад ад Бельска ў час Першай сусветнай вайны разыгралася вялікая бітва паміж нямецкім і расійскім войскамі. Ці нешта ад тае бітвы захавалася ў людской памяці?**

— Наша асноўнае насельніцтва на той час ужо выехала. Захавалася аднак мясцовая назва Акопы — я з дзяцінства помню, што там захаваліся траншэі. Яшчэ тады людзі знаходзілі там кулі, і я ў свае пяць гадоў знайшоў там у полі наган. Вакол Рыгораўцаў тры ваенныя некраполі. Найлепш захаваныя нямецкія ваенныя могілкі, што пры дарозе з Рыгораўцаў у Маліннікі. А пры дарозе ў Вульку-Выганоўскую яшчэ адна нямецкая некраполія і расійская.

**— У рэпатрыяцыю падалося з Рыгораўцаў каля шасцідзесяці душ. Што было галоўнай прычынай таго, што людзі пакідалі нажытыя месцы і выязджалі на чужое: агітацыя ці боязь перад „выклятымі" ваяўнікамі?**

— Калі гаворка пра рэпатрыяцыю, то трэба слоў некалькі сказаць і пра станцыю ў Рыгораўцах. Яна была важным выязным пунктам. Тут стаялі эшалоны і людзі з наваколля — ад Орлі па Шашылы, радыусам каля пятнаццаці кіламетраў — грузіліся тут на цягнікі. А прычыны рэпатрыяцыі былі розныя. Некаторыя выязджалі па палітычных прычынах — тыя сем'і, якіх члены былі арганізатарамі савецкага парадку сама перад вайною. Былі дзве беззямельныя сям'і, што жылі ў фальварку каля Рыгораўцаў — яны таксама выехалі. Былі бадай два выпадкі, калі людзі выязджалі ў выніку сямейных канфліктаў — у адным выпадку жонка хацела ўцячы ад мужа. Ну, і пагроза з боку г.зв. „выклятых салдатаў" таксама паклала свой цень, бо найбольшы рэпатрыяцыйны зрух быў у 1946 годзе, калі былі спалены суседнія вёскі Залешаны і Вулька-Выганоўская; акурат тады атрад „Бурага" прайшоў амаль кіламетр ад Рыгораўцаў. І людзі баяліся. Я нарадзіўся дзесяць гадоў пасля вайны і той страх памятаю, бо калі ўспыхаў нейкі пажар, то людзі выходзілі і трывожыліся ці гэта не банда — а гэта ж былі ўжо 1960-я гады, а трывога яшчэ жыла. Я знайшоў яшчэ такі дакумент, дзе запісана, колькі зямлі пакінулі людзі, што выехалі пасля вайны. Яны пакінулі амаль сто дваццаць гектараў зямлі, а ўся вёска мела 480 гектараў, а яшчэ столькі ж, 480 гектараў, было ў маёнтку. Гэта была таксама чацвёртая частка зямельных угоддзяў, значыць у статыстычным плане выязджалі тыповыя нашы земляробы.

Былі і асаблівыя падзеі часу рэпатрыяцыі. У Рыгораўцах быў Санько Бандарук, ён быў на прымусовых работах у Германіі. Вяртаўся ён адтуль на радзіму, спыніўся на начлег у ягонага дзядзькі ў Красным Сяле. Раніцай яму нехта сказаў, каб спяшаўся, бо ягоныя бацькі выязджаюць у рэпатрыяцыю. Ён прыйшоў у дзве гадзіны пасля поўдня, а раніцай ад'ехаў поезд з ягонай сям'ёй, бацькамі і братам. Не ўспеў развітацца з бацькамі, якія наведалі яго ў 1965 годзе. А ён астаўся на пакінутай бацькамі гаспадарцы.

**— Як далёка выехалі ўраджэнцы Рыгораўцаў і ці пасля яны не шкадавалі таго свайго жыццевызначальнага рашэння?**

— Я магу расказаць толькі пра сваіх сямейнікаў. Выехалі сястра майго бацькі і сястра майго дзеда з цэлымі сем'ямі. Мой бацька ўжо ў пачатку 1950-х гадоў ездзіў у СССР і наведваў іх, бо, здаецца, ім нельга было прыязджаць да нас; хаця і бацька таксама падарожнічаў да іх нейкім асаблівым чынам — без пашпарта і хаваючыся ў шасі вагонаў... Яны сталі наведваць нас недзе з сярэдзіны 1960-х гадоў. І ведаю з іхніх выказванняў, што яны шкадавалі свайго выезду. Мае сямейнікі жылі недалёка: бацькава сястра каля Брэста, а дзедава ў Ваўкавыску; цяпер яны параз'язджаліся — у Маскву і далей.

**— Яшчэ хачу даведацца пра школу ў Рыгораўцах: у які час яна працавала, бо Вы згадалі, што ўжо ў царскі перыяд...**

— Першыя гістарычныя згадкі пра нашу школу датуюцца 1884 годам, калі ў Рыгораўцах была заснавана царкоўна-прыходская школа. Настаўнікам у той школе быў Дзмітры Патэй, селянін з Рыгораўцаў. Ён сам закончыў царкоўнае вучылішча ў Вульцы-Выганоўскай; значыць тое вучылішча існавала яшчэ раней. У той час у Рыгораўцах пражывала 280 чалавек, а ў школе навучалася сорак дзяцей. У міжваенны перыяд у Рыгораўцах была пабудавана асобная школа, яна згарэла ў вайну. А пасля Другой сусветнай вайны навучанне адбывалася ў розных хатах, бадай аж у сямі месцах. А вучняў было шмат. Вось здымкі з 1949 і 1950 гадоў — шмат на іх дзяцей. Навучаў тады Максімушка Астапчук з Вулькі-Выганоўскай — усе яго шанавалі і цяпер цёпла яго ўспамінаюць. Вось здымак трэба было зрабіць, а школа яшчэ не мела шыльды. То ён узяў крэйду і на сцяне напісаў назву школы; у наступным годзе шыльда ўжо была... Калі я высвятляў, хто на тых здымках, то выпадкова даведаўся, што знімаў мой тата, у якога быў свой фотаапарат. Арыгінальны здымак быў памеру 4,5 на 6 сантыметраў, мне ўдалося яго павялічыць...

**— І вельмі гэты здымак выразны, зроблены вельмі ўмела.**

— Мне яшчэ ўдалося знайсці тую школьную шыльду, яна нейкім дзіўным трафам аказалася ў Малінніках, прыбітая да альтанкі... У Рыгораўцах была чатырохгодка, да 1975 года. А ў чарговыя класы ў першыя пасляваенныя гады дзеці хадзілі ў Вульку-Выганоўскую, а пасля ў Маліннікі.

**— Вы яшчэ згадвалі пра фальварак і пра калгас**.

— Фальварак у Рыгораўцах быў астаткам вялікага фальварка Выганоўскіх. А з многіх запісаў вынікае, што фальварак у Рыгораўцах быў звязаны з сям'ёй Касінскіх; яны там жылі і ў міжваенны час. Я аглядаў губернскія дакументы з канца XIX стагоддзя і з іх вынікае, што маёнтку было столькі ж дзесяцін, што і зямлі апошніх вяскоўцаў. Яшчэ было 114 гектараў „кліноў", якія таксама былі часткай маёнтка, а пасля яго купілі жыхары Спічкоў. У час зямельнай рэформы 1860-х гадоў сем'і вяскоўцаў атрымалі па ўчастку з тадышняга маёнтка; як вынікае з расказаў старажылаў, участак той быў велічыні каля дваццаці пяці гектараў. Касінскія жылі ў двары, будынкі ад якога за чыгуначнай лініяй.

Калгаса ў Рыгораўцах не ўдалося сарганізаваць поўнасцю, а былі дзве ці тры спробы. Быў тут у Рыгораўцах адзін чалавек, які са сваім суседам напісаў лістоўку і павесіў на дрэве; у лістоўцы паведамлялася, што калі ў Рыгораўцах паўстане калгас, то будзе ён гарэць так, як калгас у Вульцы-Выганоўскай. Ён за тую лістоўку прасядзеў некалькі гадоў у турме. Калгас тут усё ж такі быў, але толькі з некалькіх сем'яў.

**— Дзякую за змястоўную размову і жадаю далейшых поспехаў у даследаванні свайго сямейнага мінулага.**

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Сазонаў: Так і было!

**„СУСЕДСКІЯ БЫЛІ» гарадзенца Віктара Сазонава друкаваліся спачатку ў «Ніве». У кнізе (51 апавяданне) выйшлі ў канцы 2015 года. Гучалі таксама ў эфіры Радыё Рацыя, выказаны па-майстэрску голасам гэтага пісьменніка, палітыка, праваабаронцы і грамадскага дзеяча. На хвалях эфіру ў аўтарскім чытанні ў рубрыцы «Літаратура памежжа» прагучалі яшчэ яго зборнікі «Занатоўкі кантрабандыста», «Маленькія гісторыі з вялікай палітыкі», «Аповеды вясёлай шклянкі», «Дзедавы мудрасці».**



— Героі кнігі — гарадзенцы і жыхары вёсак. Яны нешта расказвалі мне, а штосьці сам падглядзеў. Дадаў гумару і напісаў з жартаўлівага ракурсу, каб пасмяяцца, — расказваў аўтар на сустрэчы ў Дыскусійным клубе згуртавання АБ-БА ў Беластоку (15 красавіка). — Спрабую паказаць адметнасці беларускага гумару, дасціпнасць у розных жыццёвых сітуацыях. Героі — суседзі, знаёмыя, выпадковыя людзі, з якімі давялося сустрэцца. Гэта тыя людзі, з якімі і звяло жыццё. Калі з чалавека атрымаўся аповед, значыць чымсьці ён мне запаў у душу. Кожны чалавек бачыць сітуацыю пад сваім кутом. Нехта скажа, напрыклад, што вось гэта — трагедыя. Іншы ўбачыць тут жарт. Я бачу па-іншаму. Гэта мае ўражанні, так асабіста я бачу свет! Я вельмі люблю фразу з фільма пра Мюнхгаўзена: «Усе глупствы на зямлі робяцца з сур'ёзнымі тварамі. Таму ўсміхайцеся, спадарства!». Увогуле, усё што я пісаў, пісаў заўсёды пра беларусаў, няважна ці гэта былі кантрабандысты, палітыкі ці суседзі. Мне падабаўся ў пэўным сэнсе ў многіх беларусаў іх менталітэт, іх разуменне жыцця. Я хацеў зафіксаваць іх у часе, у якім меў гонар жыць разам з імі. Некаторыя персанажы атрымаліся зборнымі — дадаваліся рысы, якія я заўважаў у іншых людзях. Нехта пададзены цалкам такім, якім ён ёсць... Кожны аповед мае пад сабой рэальную гісторыю. Кніга гэта задумвалася вельмі даўно, бо я сам прыехаў з вёскі ў горад. І там у мяне былі суседзі, і тут у мяне ёсць суседзі. Я прыгадваю гісторыі і са свайго войска, і яшчэ аднекуль. Гісторыі не толькі пра тое, як беларусы сутыкаюцца з беларусамі, але і пра тое, як яны перасякаюцца з іншымі людзьмі. Гэта такія *гісторыі беларускага гумару*. Не трэба прыдумваць ніякай палітыкі і навукі, каб даказаць, што мы — гэта мы. Мы — асобны народ. Дастаткова глянуць на наш гумар, паглядзець, як мы сябе паводзім у розных сітуацыях, і зразумець, што ніхто больш так не робіць, акрамя нас. І вельмі хацелася мне пакінуць у памяці праявы «беларускіх паводзін», «беларускага гумару», «беларускага погляду на свет», няхай сабе і жартаўлівыя.

Я вельмі люблю апавяданне «Генеральскі куст». Гэта рэальны выпадак, які трапіўся мне ў войску. Прыехала генеральская праверка ў часць. Служыў я старэйшым разведчыкам у спецназе паветрана-дэсантных войскаў. Мне паабяцалі 10-дзённы адпачынак, бо я лепш за ўсіх скочыў з парашутам, прабег, адстраляў — усё як мае быць! І тут генерал задае мне пытанне: «Скажы, што такое куст?». Я разгубіўся, маўляў, куст ёсць куст, усе ведаюць. А генерал зрабіў з гэтага такі балаган! Як разведчык не ведае, што такое куст?! Выклікаў камандзіра роты, зампаліта. А мне крыўдна, я ж з вёскі, я кусты садзіў, спаў пад кустамі. Аказалася, што куст — гэта «сукупнасць сукоў і галузаў, якія тырчаць з зямлі з аднаго месца»! Аказалася, што пра такія кусты напісана цэлая кніжка — «Даведнік разведчыка», з пазнакай «сакрэтна»! Бачыце, нават пра куст у СССР мог даведацца не кожны... Мяне, канешне, не пусцілі ў адпачынак. Каб я не ведаў, што такое куст! Пасля дэмбеля я прыехаў у вёску і літаральна замучыў усіх пытаннем пра вызначэнне куста. Адзін я ведаў на ўсю вёску! А войска было толькі адлюстраваннем агульнай сітуацыі.

Апавяданні наўмысна раскіданыя, каб кніжку можна было адкрыць і чытаць з любога месца. Ідэя такая: каб зафіксаваць вось гэтыя мудрасці, зафіксаваць гэтыя з'явы, нейкі гумар, нейкія падзеі, якія я бачыў на свае вочы, якія людзі расказвалі. Хацелася мне зафіксаваць той час, каб людзі не забыліся пра яго, каб пагядзелі, які ён быў — ці ён быў добры, ці ён быў кепскі, каб стараліся захаваць сваё, беларускае. Мае кнігі, колькі б іх не было, збольшага пра тое самае: пра Беларусь. Было пра кантрабандыстаў, пра палітыкаў, зараз пра суседзяў. Але ўсё гэта — занатоўкі з беларускага жыцця, з нашага менталітэту. Я паспрабаваў наўпрост зафіксаваць суайчыннікаў, з якімі жыву ў адным часе.

**(лук)**




Выдаецца ў Беларусі часопіс, які праз шэсць гадоў, калі дасць Бог, адзначыць свой стогадовы юбілей. Мае ён назву „Полымя" і абазначаецца як літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс. Гісторыя існавання „Полымя" ў многім адлюстроўвае лёс Беларусі, пачынаючы ад 20-х гадоў мінулага стагоддзя. Тут і апантанае імкненне да рэвалюцыйна-бальшавіцкіх змен у грамадстве, прыхільнасць да савецкага варыянта беларусізацыі, сталінскія рэпрэсіі, адлюстраванне ваеннага ліхалецця, брэжнеўскага застойнага часу і перабудовачнага ўздыму грамадскай і палітычнай актыўнасці. Сёння часопіс таксама адлюстроўвае рэчаіснасць, але паколькі з'яўляецца праўрадавым выданнем, заснавальнікам якога з'яўляецца пралукашэнкаўскі Саюз пісьменнікаў Беларусі, то адлюстраванне гэтае выключна аднабаковае і таму не надта цікавае. Ну, а каб у гэтым упэўніцца, варта зазірнуць на сайт часопіса, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://www.polymja.lim.by**.

Першы позірк на сайт выдання не ўражвае аніякім чынам. Шэра-чорна-белая гама не выклікае аніякага зацікаўлення ў далейшым знаёмстве са зместам. Савецкі „Знак пашаны", якім часопіс быў узнагароджаны ў 1973 годзе, неяк адразу акрэслівае гэтак званую савецка-нафталінавую накіраванасць выдання. Гэтая накіраванасць пацвярджаецца зместам многіх нумароў часопіса, з якімі можна азнаёміцца ў фармаце pdf.

Так, у апошніх нумарах літаратурна-мастацкага часопіса, пачынаючы ад кастрычніка 2015 года, не ўдалося знайсці хоць нешта пра найбольш значную падзею ў беларускай літаратуры — узнагароджанне Нобелеўскай прэміяй Святланы Алексіевіч. Затое ў апошнім нумары мы можам пазнаёміцца з артыкулам Тацця ны Шамякінай „Ідэалогія і адукацыя, або ці патрэбна сучаснай моладзі ведаць жыццё?". Там, у цалкавітым працягу цяперашняй беларускай палітыкі робіцца спроба распавесці пра прыгажосць савецкага ладу жыцця, колькі многа там добрага, і як цяпер некаторыя нават дзяржаўныя медыі ў Беларусі спрабуюць грацъ на руку дрэнным лібералам, для якіх, акрамя матэрыяльнага, нічога каштоўнага ў свеце няма.

У фармаце pdf на сайце размешчаны нумары, пачынаючы ад студзеня 2010 года. Да гонару рэдакцыі, размяшчэнне нумароў адбываецца даволі аператыўна, улічваючы, што часопіс выходзіць штомесяц. І віртуальны прагляд іх, бадай, адзінае, што можа выклікаць зацікаўленне, бо ўласна па сайце „Полымя" цяжка скласці аб ім сваё меркаванне.

Так, на галоўнай старонцы месяцца фотаздымак трэцяй старонкі часопіса, дзе ўказваецца частка выходных даных, пералік сяброў рэдакцыйнай калегіі, склад заснавальнікаў. Пры гэтым амаль тое ж самае мы пабачым і ў рубрыцы „Пра часопіс". Такі падыход да прэзентацыі выдання на ўласным сайце даказвае, што рэдакцыя папросту не надта зацікаўлена ў прыцягненні новых чытачоў і яе не вельмі турбуе, як выглядае нават галоўная старонка сайта.

Аднослна падрабязны расповед пра „Полымя" мы знойдзем толькі ў рубрыцы „Гісторыя", дзе ходзіць пра асноўныя этапы развіцця выдання. „За парогам XXI стагоддзя „Полымя" застаецца верным сваім лепшым традыцыям і аднача сова імкнецца быць сугучным новаму часу, уважлівым да новых плыняў і накірункаў у літаратуры", — сцвярджаецца напрыканцы тага расповеду, але пагадзіцца з такой высновай немагчыма.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

ДАТА З КАЛЕНДАРА

ДАТА З КАЛЕНДАРА
ДАТА З КАЛЕНДАРА
ДАТА З КАЛЕНДАРА
ДАТА З КАЛЕНДАРА

Вярнуў Беларусі Вялікае Княства



## 95 гадоў з дня нараджэння Міколы Ермаловіча

Беларускі гісторык, літаратуразнавец, грамадскі дзеяч, пісьменнік Мікола Ермаловіч нарадзіўся 29 красавіка 1921 г. у вёсцы Малыя Навасёлкі Койданаўскага раёна. У 1938 г. скончыў Койданаўскую сярэднюю школу і паступіў на беларускае аддзяленне літаратурнага факультэта Мінскага педінстытута. Там да пачатку Другой сусветнай вайны скончыў тры курсы. З прычыны дрэннага зроку вызвалены ад службы ў савецкай арміі. Быў эвакуяваны і працаваў настаўнікам расейскай мовы і літаратуры ў в. Лабаскі, што ў Мардовіі. У 1943 г. вярнуўся ў Беларусь, амаль два гады працаваў настаўнікам у Суражы Віцебскай вобласці. У 1944-1946 гг. зноў жыў у Койданаве. Пасляаднавы навучанне ў педінстытуце, які скончыў у 1947 г., а потым вучыўся ў аспірантуры пры ім.

У 1948-1955 гг. Мікола Ермаловіч працаваў старэйшым выкладчыкам беларускай літаратуры ў Маладзечанскім настаўніцкім інстытуце. Загадваў метадычным кабінетам Абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў, пасля чаго па стане здароўя выйшаў на пенсію. Быў сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў, жыў стала ў Маладзечне, а ў Менск ездзіў у архівы. Друкаваўся з 1948 г., выступаў у друку з крытычнымі і літаратуразнаўчымі артыкуламі, гістарычнымі нарысамі. Друкаваўся ў маладзечанскай раёнцы, альманаху „Нарач", газетах „Звязда", „Літаратура і мастацтва", „Голас Радзімы", часопісах „Полымя", „Нёман", „Маладосць", навуковых зборніках. У 1963 г. Ермаловіч пачаў выдаваць рукапісны часопіс „Падснежнік".

Вынікам ахвярнай даследніцкай працы стала напісанне ў 1968 г. кнігі „Па слядах аднаго міфа" (доўгі час хадзіла самвыдатам, афіцыйна выйшла толькі ў 1989 г.). Гэтая кніжка стала легендарным выданнем. У 1970 г. выйшла кніга „Дарагое беларусам імя", у 1990 г. — даследаванне „Старажытная Беларусь: Полацкі і Навагародскі перыяды", у 1994 г. — „Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд", у 2000 г. — „Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае". Гэтыя кнігі вярнулі беларусам сваю сярэдневечную гісторыю. Працы Ермаловіча ў значнай ступені паўплывалі на фармаванне сучаснай грамадскай думкі і гістарыяграфіі Беларусі. У 1975 г. Ермаловіч узнаўляе выпуск „Падснежніка", але з новым загалоўкам „Гутаркі" — да 1976 г. выйшла каля 50 выпускаў. „Гутаркі" шматразова перадрукоўваліся, перапісваліся, распаўсюджваліся сярод беларускай інтэлігенцыі. Яны выдаваліся пад псеўданімам Сымон Беларус. У сваім выданні Ермаловіч змяшчаў творы, што не маглі быць апублікаваны ў афіцыйным друку з прычыны сацыяльнай і палітычнай скіраванасці. Аўтар рыхтаваў матэрыялы ў Менску, друкаваў у Маладзечне, а потым перадаваў Яўгену Куліку для памнажэння. Нумар выходзіў прыкладна раз на тыдзень.

Мікола Ермаловіч — гэта чалавек, які вярнуў беларусам памяць пра нашу сярэднявечную гісторыю і спадкаемнасць ад ліцьвінаў. Але ён быў не толькі вядатным навукоўцам-даследнікам. Калі прыйшла перабудова, актыўна падтрымаў адраджэнскую дзейнасць. Браў удзел у першым з'ездзе БНФ у 1989 г. у Вільні. Крыху пазней прыняў прапанову кіраўніцтва Нацыянал-дэмакратычнай партыі Беларусі і стаў адным з трох яе сустаршыняў, быў ідэолагам нацыянальнага руху, пра што амаль нідзе нават не згадваецца.

Памёр Мікола Ермаловіч, трапіўшы пад машыну ў Менску, 5 сакавіка 2000 г. Пахаваны ў Маладзечне. У гэтым горадзе ёсць памятны знак у яго гонар, усталяваны ў 2003 г. У 2010 г. выйшаў збор твораў „Выбранае".

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Раман Маліноўскі робіць макет царквы



Жыхар Нараўкі **Раман Маліноўскі** найперш з запалак рабіў макеты прыгожых вясковых драўляных дамоў з цікавай архітэктурнай развязкай. Усе яны атрымаліся ўдалыя і прыгожыя. У 2008 годзе паказаў іх на выстаўцы ў Галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы. Наведвальнікам гэтай установы культуры яны спадабаліся. Пасля з планачак з фанеры з ліставых дрэў склейваў мініяцюрны макет колішняга драўлянага касцёла ў Нараўцы, у якім вернікі маліліся ад 1914 года да ліпеня 1965 года.

На працягу двух гадоў рабіў вялікі макет даўняга белавежскага царскага палаца. Цары прыязджалі ў Белавежу на вялікія паляванні ў пушчы і пабудавалі сабе палац. Па іх загадзе была пракладзена чыгунка. Цяпер макет палаца можна глядзець на выстаўцы ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы.

У нараўчаніна Рамана Маліноўскага вялікае захапленне да працы над макетамі аб'ектаў з цікавай архітэктурай. Такому занятку прысвячае ён вельмі многа часу. Часта працуе ночну, неаднойчы да самага рання. Зараз канструктар-самавук займаецца „пабудовай" макета парафіяльнай царквы ў Нараўцы. Мае для гэтага неабходныя матэрыялы і спецыяльныя прылады. Мае ён таксама дастаткова ахвоты да сваёй любімай працы. Да таго, каб спадар Раман рабіў макеты цэркваў была і мая прапанова-намова.

Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

## Нязручнае змаганне з памяццю

У сваім артыкуле «Змаганне з нязручнай памяццю» (Ніва № 17 ад 24.04.2016 г.) Мацей Халадоўскі да непазнання спрасціў маё выказванне пра спектакль «Белая сіла. Чорная памяць» у Драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку. Гаварылі мы на сходах перад тэатрам, пасля выхаду з вельмі эмацыйнага спектакля, дык не маю прэтэнзій да аўтара, але хацелася б, каб чытачы «Нівы» ўсё-такі ведалі, пра што мне дакладна ішло. А не спадабалася мне ў гэтым выдатным спектаклі тое, што толькі беларусы ў ім безыменныя. Усе выступаюць пад сваімі імёнамі: палякі, яўрэі, немцы і расейцы, і толькі беларусы як «праваслаўныя». Такім чынам, у спектакль перанесена непавага да беларусаў аўтара, ізноў дадам — выдатнай! — кніжкі Марціна Концкага «Беласток. Белая сіла. Чорная памяць», якая натхніла аўтара сцэнарыя Пятра Равіцкага. Концкага жывыя беларусы відавочна не цікавяць. Паводле яго, рок-фестываль «Басовішча» і Радыё Рацыя заснавалі нейкія «праваслаўныя». Як сузаснавальнік абодвух мерапрыемстваў хачу сказаць, што заснавалі іх беларусы для беларусаў без розніцы на веравызнанне.

Ахвяры «Бурага» ды іншых «праклятых жаўнераў» у п'есе паказаны паводле гэтага самага прынцыпу, якога трымаецца адзін з яе персанажаў, здаецца Грамадская Дзяячка, якая сцвярджае, што горад захоўвае памяць пра ўсіх, хто ў ім жыў ды кажа (цытую з памяці): «W naszym mieście mieszkali Polacy..., też Polacy i... Polacy». Называючы ахвяры «праклятых жаўнераў» «праваслаўнымі» сцэнарыст, хочаш не хочаш, сцвярджае тым самым, што яны... «też Polacy». Такім чынам апынуўся сярод тых, якіх сам высмейвае. Тое самае датычыць і Марціна Концкага. Гэта паказвае, што ў паляках комплекс велічы ў адносінах да, як яны любяць называць, «тутэйшых», сядзіць так глыбока, што праяўляецца нават тады, калі з ім змагаюцца.

Алег ЛАТЫШОНАК




## Адгаданка

1. частка нагі ад таза да калена з... лёгкаатлетычным снарадам, 2. з яе ёлка, 3. казачны дракон, 4. казачны цар звяроў, 5. расійскі абласны цэнтр на поўнач ад Віцебскай вобласці, 6. сямейны саюз жанчыны і мужчыны, 7. пінская рака, 8. спецыяліст па жывёлагадоўлі, 9. раённы цэнтр між Мсціславам і Касцюковічамі, 10. прадмет вупражы, які надзяваецца каню на галаву.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | |
| | | | 1 | | | 2 | | | |
| | | | 3 | | 4 | | 5 | 6 | |
| | | | | 7 | | | | | |
| 8 | 9 | | | | | | | 10 | |

У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 15 нумара**

Акын, блін, бразілец, Відзы, дзяга, лой, нацыя, Ной.

Рашэнне: **І на здаровай яблыні гнілы яблык знойдзецца**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Веры Цілюлька** з Саколкі і **Ганне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

## 01.05 — 07.05

**(22.03. — 20.04.)** У маі ў цябе актывізуецца прага забавы. Шопінг мае ўсе шанцы стаць тваім любімым спосабам расслабіцца. Аднак пачуццё меры захаваеш. Памятай, што хаджэнне па крамах і вятлівасць прадаўцоў зусім не абавязваюць цябе да пакупак. Пасля 8 мая паглыне цябе свет кніг, абавязкова сустрэнецца твор, які пакіне на табе вялікае ўражанне.

**(21.04. — 21.05.)** Больш часу праводзь з дзецьмі, але не за барацьбой з хатнімі заданнямі, а ў прыемнай атмасферы. Замацуеш за сабой імідж цікавага, вясёлага, жыццярадаснага таты (мамы, брата ці сястры). З 1 па 10 мая знайдзі пару гадзін для сябе, не спяшайся з працы дадому: прагуляйся ў парку, упарадкуй у галаве падзеі мінулага дня. З 11 па 24 траўня абавязкова займіся сабой, прайдзі курсы масажу. Пасля 25 траўня з задавальненнем успомніш пра даўняе хобі.

**(22.05. — 22.06.)** Цяпер добра было б адправіцца ў санаторый або на мора. Табе жыццёва неабходна адцягнуцца ад бягучых праблем. Вельмі дзейснай будзе тэрапія з дапамогай араматычных алеяў. Пасля святаў захочацца зноў адчуць інтэнсіўнасць жыцця і зносін. Выбірай віды вольнага часу, якія дапамогуць табе хоць бы на момант апынуцца ў цэнтры ўсеагульнай увагі.

**(23.06. — 23.07.)** Будзеш мець магчымасць сур'ёзна расслабіцца, выкарыстоўвай для адпачынку кожную вольную хвіліну. Захочацца выпрабаваць новыя адчуванні, атрымаць свежыя ўражанні. Для паездкі ці забаўляльных мерапрыемстваў спрыяльны перыяд з 5 па 11 траўня. Адпачынак у сямейным коле будзе жаданым, але не заўсёды спакойным з-за нестабільнага эмацыйнага стану дамачадцаў. Менавіта таму 1-2 і з 12 па 15 мая лепш правесці сам-насам.

**(24.07. — 23.08.)** У маі з'явіцца магчымасць адправіцца ў далёкае падарожжа. Сябры — найлепшая кампанія. Майскія дні спрыяльныя для ўдасканалення сваіх талентаў, майстэрства. Зможаш падзарабіць, прадаючы вынікі сваіх прац. Для прыёму гасцей падыдуць дні з 7 па 9 і з 21 па 23 траўня. Паспрабуй больш часу праводзіць з дзецьмі ў агульных развіваючых гульнях і хобі.

**(24.08. — 23.09.)** У траўні захочацца акунуцца ў замежную культуру. Турыстычная паездка можа быць звязана з дарагоўляй або іншымі нязручнасцямі. Калі не падасіся ў вяж, арганізуй тэматычную вечарыну дома. З 1 па 6 мая захочацца прайсціся па крамах і зрабіць некалькі пакупак. У траўні надавай больш увагі творчасці. У перыяд з 11 па 14 мая прымай салевыя ванны ці едзь на мора.

**(24.09. — 23.10.)** Цяпер цвёрдае рашэнне назапасіць пэўную суму прымусіць цябе быць ашчадным. Супольныя гульні ў коле блізкіх, пікнікі, наведванне выстаў здымуць напругу з мінімальнымі выдаткамі. Сарганізуй у хаце караоке-клуб, чаяванне з сяброўкамі, маляванне з дзецьмі. Такія віды вольнага часу прынясуць многа душэўнага цяпла.

**(24.10. — 22.11.)** Цяпер унутраны стан патрабуе далучэння да прыгажосці і эстэтыкі. Удзел у культурных мерапрыемствах і ў занятках мастацтвамі. Праца над стварэннем прыгожых вырабаў даставіць масу задавальнення. Наведвай цырульню, крамы. З 1 па 10 мая арганізуй свой вольны час у кампаніі малых.

**(23.11. — 22.12.)** Лепшым адпачынкам будзе змена занятку і адчуванне гармоніі ў сям'і і на працы. Не зможаш сядзець без справы. Навядзь парадак, рыхтуй здаровую ежу, памяняй гардэроб. Каштоўныя рэчы купляй 1, 4, з 6 па 8, з 13 па 16 мая. Кантактуйся з жывёламі — гэта палепшыць твой настрой і самаадчуванне.

**(23.12. — 20.01.)** Адпачынак у маі мае шанцы стаць незабыўным. Можаш паехаць у іншы горад і трапіць у дзіўную любоўную гісторыю. Спрыяльна прымаць удзел у розных міжнародных мерапрыемствах, конкурсах, спаборніцтвах. Старайся атрымліваць асалоду ад жыцця, вучыся любіць сябе.

**(21.01. — 19.02.)** Сустрэчы з сябрамі могуць ператварыцца ў дыскусійны клуб або інтэлектуальныя вячоркі. Не пазбаўляй сябе радасці стварыць у хаце атмасферу свята. З 15 траўня наступіць лепшы час для зносін з дзецьмі. Адпраўляйся на атракцыёны, выставы, спартыўныя мерапрыемствы.

**(20.02. — 21.03.)** У маі можаш захапіцца чымсьці новым, да прыкладу навучыцца ваджэнню аўтамабіля або камп'ютарнаму дызайну. Будзе цябе вабіць рамантыка дарог: падарожжы-адналённі, патрэба ў навіне і спазнанні. У першай палове мая твой дом можа ператварыцца ў грамадскую прыёмную ці пакой адпачынку для сваякоў, суседзяў, знаёмых. Пасля 10 траўня адхочацца наладжваць сямейныя вячоркі, нешта мяняць у інтэр'еры, упрыгожваць сваё жыллё. З 8 па 10, з 27 па 30 мая смела плануй адпачынак з калегамі па-за працай.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (41)


Помнік ахвярам Айчыннай вайны




Нідзе на Палессі я не бачыла помнікаў Сцяпану Бандэру. Людзі, асабліва старэйшыя жанчыны, з трывогай гаварылі пра сучасную ўкраінска-расейскую вайну. Як гэта ўсё скончыцца? — гадалі са страхам. Ці ўлады стрымаюць мір і парадак у краіне. Каб не было, як пасля вайны з немцамі, калі прыходзілі *бульбашы* з лесу і выбівалі тых, хто не падпарадкоўваўся іх законам. Гэта было страшней за вайну, сусед ненавідзеў суседа, брат забіваў брата...

— Вайна ў нас закончылася толькі ў 1951 годзе, — кажа Рыгор Яцута.

Што тады здарылася? Да гэтай пары новыя савецкія ўлады не далі рады расправіцца з нацыяналістычнай партызанкай, якая ўсё хавалася па навакольных лясах і балотах. Каб адрэзаць *лясных* ад харчовай і матэрыяльнай базы, колькі народу адправілі этапам у Сібір. Шмат пацярпела выпадковых людзей, як дзед майго субяседніка.

— Яны прыйшлі ўначы, — мой субяседнік называе іх безыменнай зграяй, — загадалі запрэгчы каня і дзесьці іх везці. Дзед працаваў у лесе, не мог адмовіцца. Адразу ліквідавалі б. У сяле хтось прыкмеціў як выязджаў фурманкай загароддзем. Гэтага хапіла. Раніцай прыйшлі з сельсавета, арыштавалі. За „дапамогу" лясным атрымаў пятнаццаць гадоў. Ніколі не сказаў, што з ім рабілі ў ссылцы. Але не клеймаваў камуністаў. Гаварыў: яны больш справядлівыя, чым *тыя*. Сталін караў аднаго, вінаватага, а *хлопцы з лесу* выбівалі род датла!

Сямейны расказ усё яшчэ наклікаў хваляванне і крыўду, час не залячыў ран. Мяне ўражвала людская сумленнасць і справядлівасць субяседніка. Рыгор Яцута — чалавек савецкай наменклатуры. Амаль чвэрць стагоддзя кіраваў Высоцкім сельсаветам. Сямейны расказ супярэчыў прынятым уяўленням, схемам.

— І не пашкодзіла вам пакаранне дзеда ў прафесійнай і грамадскай кар'еры? — спытала я. — Ён жа лічыўся ворагам народа.

— Дзеда пасля вяртання рэабілітавалі, — чую ў адказ; пасля красамоўнай паўзы былы галава заяўляе: — Усе ведалі, якое пасля вайны ў нас пекла тварылася. Амаль кожная сям'я пацярпела. Пытаеце пра кар'еру? — тут Рыгор Яцута шырока заўсміхнуўся: — Я ж не пхаўся ў начальнікі. Працаваў лесніком, гэта было па душы. А да сельсавета людзі прыгаварылі, прагаласавалі. А пасля ўсё перавыбіралі...

Абавязкі галавы Высоцкай сельскай рады Рыгор Яцута выконваў на працягу пяці скліканняў, пакуль у 2006 годзе не выйшаў на пенсію. За заслугі перад украінскім народам быў у 2004 годзе ўзнагароджаны Граматай Вярхоўнай Рады Украіны.


Рыгор Яцута

* * *

Высоцкі музей шмат месца адводзіць рэвалюцыйнаму руху і яго героям. Але не гэта прамаўляла ў карысць яго выключнага значэння. Тут сустрэнеце ўнікальныя стэнды, прысвечаныя мясцовым палякам, якія загінулі ў час г.зв. „Валынскай разні" і яўрэям, забітым 9 верасня 1942 года. Дакладны спіс ахвяр дапаўняюць, часта нялюдскія, жудасныя ўспаміны відавочцаў.

Матрона Родзік (з дому Юдко) перадае памяць пра ліквідацыю гета. Яно было арганізаванае ў межах мястэчка. У Высоцк сагналі яўрэяў з навакольных сёлаў, тут „схаваніліся" бежанцы з Давыд-Гарадка, Століна. Іх расселілі па дамах у мясцовых габрэяў. Да часу ліквідацыі гета ўсе працаздольныя жыхары атрымалі загад хадзіць на работу. Напярэдадні 9 верасня 1942 года ў Высоцку з'явіліся дадатковыя атрады нямецкай паліцыі. Раніцай усіх сагналі на гарадскую плошчу ды абшукалі пакінутыя будынкі. Усіх, прыблізна дзве тысячы дарослых, дзяцей, старых прымусілі стаць на калені. Паліцыя яшчэ раз дакладна абшукала кожнага паасобку. Далей людзей сфармавалі ў калоны. Адну з іх, пад шчыльным паліцэйскім эскортам, пагналі вуліцай Падвысоцкай. На паўднёвым канцы мястэчка, над берагам Гарыні, быў ужо выкапаны глыбокі роў. Месца расстрэлу пільнавалі фашысты. Яны з нейкай педантычнай дакладнасцю падводзілі да ямы людзей у адзіночку, распраналі дагала і прымушалі легчы ў яму. Там забівалі. Злачыннасць адбывалася без лішніх страсцей, прафесійна...

Другую групу павялі іншай дарогай. Людзі ведалі, што іх вядуць на гібель. У пэўны момант яны пачалі разбягацца. Шмат іх тады расстралялі. Іх целы звалілі ў агульную яму. Пасля гэтага інцыдэнту карнікі ўжо не дазволілі хаця б на мінімальны закалот. Трэцюю калону павялі па шчыльнай вуліцы Мястэчковай, праз Борык, адкуль не было магчымасці ўцячы. У гэты дзень — 9 верасня 1942 года — расстралялі 1864 яўрэяў.

З цэлага генацыду ўсё ж ацалела 16 чалавек. Ім пашчасціла пераплысці раку Гарынь на другі бок. Ацалеў яшчэ Ісак Кафтан Сендэровіч. У гэты дзень, насуперак загадам, каб не ісці на работу, выправіўся пасвіць кароў. Калі вечарам вяртаўся з пагону, людзі папярэдзілі пра здарэнне. Той, як стаяў, завярнуўся ды рушыў у лес да партызан. Пасля вайны вярнуўся і жыў у Высоцку. Тут абзавёўся сям'ёй, жыў да 1996 года.

Рыгор Яцута рашыў упарадкаваць і пазначыць месца расстрэлу. Гадамі яно заставалася безыменнае і забытае. Вакол магілы, каб яшчэ больш ушанаваць месца, пасадзілі паўтара гектара сасновага лесу.

* * *

Здзівіла мяне варожасць, з якой мясцовыя палешукі гаварылі пра *хлопцаў з лесу*. Праўда, тэма пасляваенных злачынстваў па сённяшні дзень недастаткова асветлена. У народзе большасць злачынстваў, у тым „Валынскую разню" прыпісваюць *бульбашам*. Гэтае праклятае слова ніяк не супадае з беларусамі — гурманамі бульбы.

*Бульбашы* — гэта крайне нацыяналістычнае вайсковае фармаванне, якое аддзялілася ад УПА і дзейнічала пад кірункам Каробкі. У час акупацыі супрацоўнічалі з фашыстамі, пасля 1945 года дзейнічалі як лясная партызанка.

— Ніякі граматны, прыстойны чалавек з Высоцка не пайшоў у *бульбашы* па сваёй волі, — кажа Рыгор Яцута. — Прыходзілі ноччу, прыстаўлялі пісталет да галавы, забіралі ў лес. Навабранцу, каб захаваць жыццё, трэба было паказаць сябе ў атрадзе. Яму ставілі загад ліквідаваць кагосьці з суседства або і сям'і...

*Бульбашы*, як сведчыць Матрона Родзік (яна была замужам за палякам), паявіліся ў Высоцку летам 1942 года і адразу сталі знішчаць мясцовых палякаў. Жанчына пакінула сведчанне пра „Валынскую разню".

*19 лютага 1943 года на рацэ быў лёд. У Высоцк прыйшлі бульбашы. Ішлі парадна. Мяне спынілі і не пускалі дамоў. За гэты час зарубалі сякерамі сям'ю паляка Гізіка з жонкай і чацвёркай дзяцей — дзяўчынку і хлопчыка паставілі пры хаце Протасавіцкага, каб забіць. Пасля перадумалі і павялі іх на панадворак Шчураў. Майго сына, Збышыка, муж трымаў на руках, а як пабачыў, што будуць забіваць, паставіў хлопца на ногі і загадаў бегчы. Аляксей Палхоўскі ўбачыў дзіця і схаваў у сваім двары. Дзецям Гізіка бульбашы адрубалі галовы.*

*У Маеўскіх жыла настаўніца Путкевіч з прыслугай, іх таксама забілі. Забілі таксама бухгалтарку з лясніцтва, паню Марыю, якая кленчыла з ружанцам у руках. У гэты дзень яны знішчылі 40 палякаў-высачан, яшчэ зарубалі сям'ю лекара Каліноўскага. Ён быў украінцам. Яго дачка выйшла замуж за паляка — начальніка пошты. Сям'ю знішчылі пасля абеду. Зяць Каліноўскага ўгледзеў, што ідуць з сякерамі на панадворак, ён выскачыў з дому і ўцёк да Століна. У іх было піяніна, вялікая хата, мэбля. Дарэчы, дачка была цяжарнай. Не пашкадавалі. Забілі іх з мэтаю грабяжу....*

— Ніхто звонку не разумее, як цяжка нам справіцца з мясцовай гісторыяй, — кажа Рыгор Яцута. — І чаму так мала ў нас пра гэта пішуць, гавораць? Час цяпер неспакойны, шалёны. Такая трагедыя зноў можа паўтарыцца...

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны **КАНДРАЦЮК**

* У рэпартажы скарыстаны матэрыялы з кніжкі „Висоцьк: із глибини віків до сьогодення", „Волинські обереги", 2009.

ISSN 0546-1960